

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

BULK RATE US POSTAGE PAID ADA, MI Permit No 47

1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 5 (18) Май 1995 May Год выд. 3


## Пяцьдзесят гадоў таму назад закончылася другая сусьветная, вялікая і крывавая вайна...



Васіль БЫКАЎ

### АЗІРАЮЧЫСЯ НА ПЕРАМОГУ

(Спэцыяльна для Беларускага Дайджэсту)

Развагі пра вынікі і наступствы другой сусьветнай вайны

Людзі даўно заўважылі брутальную асаблівасьць чалавечай памяці: слабеючы ў часе, яна ня проста звужаецца ў сваіх памятлівых магчымасьцях — яна падмяняецца. Падмяняецца нібы **антыпамяцьцю**, калі яе звыклы багаж выцясьняецца вобразамі, што маюць пазьнейшае паходжаньне і зьяўляюцца пасутнасьці прадуктам дагэтуль шаноўнай у нас палітычнае прапаганды. Людзі, якія сапраўды зьдзейсьнілі свой гістарычны подзьвіг, перамаглі зьлейшага ворага чалавецтва — нямецкі фашызм, нярэдка ахвотна і проста аддаюць сябе на ахвяру спарахнелай таталітарнай ідэялёгіі, у яе самых замшэлых, трывіяльных формах. Ад мноства шматлікіх перажываньняў мінулай вайны ў іх застаюцца адно салодкія гукі фанфараў вядомага фінальнага параду ды мілагучны перазвон юбілейных медалёў на ўласных грудзёх. Іх памяць упарта імкнецца вызваліцца ад гнятлівага цяжару бяды і няшчасьцяў, перажытых мільёнамі раней, чым была здабыта тая перамога.

І тым ня менш, гэтая памяць жыве, варушыцца ў і без таго разварушанай сьвядомасьці посттаталітарнага грамадзтва, патрабуючы адказу на табуяваныя да нядаўняга часу пытаньні. Так, мы перамаглі, але які кошт тае нашай перамогі? Якія яе сапраўдныя мэты? Ці толькі разгром нямецкага фашызму? А можа, і стварэньне яшчэ болей новага (камуністычнага) парадку ў Эўропе? Наколькі ашчасьлівілі палякаў, чэхаў, славакаў, венгерцаў, румынаў, баўгараў ды югаславаў, якія і дагэтуль ня могуць выграбсьціся з намі-ж выкапанага для іх рова сацыялістычнага шчасьця. Яшчэ і сёньня цяжка зразумець таксама, чым мы ваявалі — колькасьцю ці ўмельствам, калі пакінулі на полі бою ў дзесяць разоў болей ахвяраў, чым іх пакінуў наш пераможаны вораг. (Зрэшты, дакладнай лічбы ня ведае ніхто. Наша статыстыка, як вядома, легкадумная служка палітыкі і мяняецца адпаведна таму, як мяняецца сама палітыка). Ці надта дасьведчаныя былі ў вайсковым майстэрстве нашы славутыя палкаводцы, якія звыкла кіравалі войскам надта традыцыйным інструмантам — дубовым кіем? Ды яшчэ з дапамогай прапагандова-камісарскай арміі, паліцэйскага "смерша", асобных аддзелаў, заградатрадаў, штрафных ды штурмовых ротаў і батальёнаў. Інтэлектуальна-культурныя сілы Чырвонай арміі, як цяпер вядома, самааддана працавалі над стварэньнем вобразаў для перайманьня, а пазьней — прапагандовых міфаў аб тым, як — паводле трапнага вызначэньня А. Салжаніцына, — рускі Іван бег на вайну, каб хутчэй аддаць жыцьцё за радзіму і як цяжка было гэнералам вадзіць пальцам па карце.

Воблік вусатага гэнералісімуса ператварыўся для пэўнае часткі вэтэранаў у богападобную істоту з рытуальнаю люлькай у руцэ, антычнага героя ў суконным шынялі, што прывёў іх да перамогі. У плябейскім экстазе пакланеньня яны забыліся на яго крыважэрныя загады (хоць-бы славуты загад нумар 227), ад якіх некалі здрыгаліся ўсе — ад гэнерала да апошняга чырвонаармейца. Цяпер яны гатовы забыцца на свае даўнія крыўды і сарамліва адцурацца ад сябе колішніх — заўжды галодных і зьнямоглых, нявыспаных і вашывых, задушаных невыказнаю крыўдай і беспрасьветным лёсам. Ня шмат было праблемаў у тых, хто па-хрысьціянску зьмірыўся з немінучай пагібельлю — гераічнай, як Матросаў, ці галоднай, жывёльнай, якой гінулі ў шматлікіх нямецкіх шталагах. Невырашальныя праблемы ўзьнікалі, калі хто хацеў ацалець, выжыць, неяк дапяцца да хоць-бы прымітыўнага даваеннага жыцьця. Ці не на гэтай глебе ў значнай меры адбываліся і нярэдкія праявы здрады, калабарацыі з ворагам, — зусім не з ідэёвых ці палітычных меркаваньняў, а з натуральнай чалавечай спадзеўкі перачакаць, выйграць час, каб затым... Але гэтае затым, як правіла не наставала. Як не настала яно для гэнерала Ўласава і ягонай арміі, для дзеячоў нацыянальнага руху, антыкамуністых, — для шмат каго з тых, хто меў нейкі спадзеў стаіцца, засьцерагчыся, апынуцца над паядынкам двух звар'яцелых тыграў. Сярэдзіны не было, як, зрэшты, няма яе і цяпер. Як тады, так і зараз ёсьць мара пра яе як пра аптымальнае выйсьце з пасткі, дзе можна было-б перачакаць буру. Але з пасткі або вырываюцца, або ў ёй застаюцца назаўжды.

Усе гады крывавай вайны Беларусь палала ў пажарах партызанскай барацьбы; гінулі бязьвінныя людзі, бурыліся гарады і вёскі. Але з кім ваявала партызанская армія ў далёкім ад фронту нямецкім тыле? Няўжо, як нас пераконвала камуністычная прапаганда, з адборнымі дывізіямі СС, зьнятымі з перадавой, танкавымі ды гранадзёрскімі аддзеламі? Прысланыя з-за лініі фронту чэкісцка-берыяўскія групы, падпольныя абкамы, райкамы, што камфортна і бясьпечна ўладкаваліся ў ціхіх забалотных лясах, сапраўды раздзьмулі пажар пасутнасьці грамадзянскай вайны беларусаў. Тым болей, што гаручага матэрыялу хапала. Яго нямала нарыхтавалі за ўсе папярэднія гады савецкай улады, якая добра парупілася каб раскалоць нацыю па клясавых, палітычных, канфэсійных ды іншых адзнаках. Гарэла Беларусь, яе сыны забівалі адзін аднаго, старанна, ад душы выконваючы ўсё той-жа гітлероўска-сталінскі плян гэнацыду ў адносінах да ўсіх, хто не з імі.

Так, мы перамаглі, але зараз, праз паўстагодзьдзя пасьля нашай перамогі ці не правамерна задаць сабе элементарна простае пытаньне: што мы маем з тае перамогі? Вось немцы, напрыклад, не перамаглі, не перамаглі таксама італьянцы і японцы — яны стрывалі грандыёзныя нацыянальныя катастрофы, як тады здавалася. Але з тых катастрофаў яны здабылі пэўныя ўрокі і ў выніку так уладкавалі сваё жыцьцё, як нам не ўладкаваць ніколі. Значыць, ці такая ўжо адназначная для нас нашая гістарычная перамога? Можа, тоіцца ў ёй і яшчэ штось невядомае для нас і значнае? Ці гэта Ўсявышні так своеасабліва разьмяркаваў сваю Боскую міласьць: каму імпэрска-ваяўнічая напышлівасьць, а каму ўладкаванае людзкое жыцьцё. Каб усё па-справядлівасьці, як і патрабуе мілы для многіх сэрцаў сацыялістычны прынцып разьмеркаваньня зямнога шчасьця.

Чым болей часу мінае з памятнага травеня сорак пятага, тым болей пытаньняў ставіць мінулая вайна. Абясцэньваюцца шмат якія з ліку, здавалася-б, безумоўных каштоўнасьцяў, узьнікаюць новыя. Маладзейшым пакаленьням здаецца, што для іх настаў новы час, не зьвязаны з праклятым мінулым, якое так ці інакш прычынілася да горкага лёсу іхніх бацькоў і дзядоў. Але ня будзем сьпяшацца з вывадамі. Усё-ж шмат што ў жыцьці зьвязана моцнай вяроўчынай, не разблытаўшы тугія вузлы якой, не надта пасунешся ў шчасьлівую будучыню. Хоць гісторыя, як вядома, ня надта чаму-колечы вучыць, але і вучыцца ў сябе нікому не забараняе. Вядома, таму, хто хоча навучыцца. Для іншых яна — пустая забаўка. У тым ліку і гісторыя мінулай, вялікай і крывавай вайны.

**Цалкам падтрымоўваем думку, якая выказаная ў газэце "Літаратура і Мастацтва":**

За постсавецкі час Беларусь, у адрозьненьне ад сваіх блізкіх і далёкіх суседзяў, так і не займела кіраўніка, які-б на першае месца ставіў інтарэсы сваёй краіны, а не суседняй. Наадварот, дарваўшыся да ўлады, новы лідэр пачынае ганьбаваць і прадаваць сваю дзяржаву, заклікаць да ўваходжаньня ў "зону", у "саюз", ці іншую нейкую халеру. Парадокс дый годзе. У суседзяў камуністы сталі нацыяналістамі, а ў нас-жа хутчэй нацыяналісты стануць камуністамі (сацыялістамі), чымсьці наадварот. І справа ня толькі ў дэнацыяналізацыі, русыфікацыі і інш. Справа яшчэ і ў тым, што ня было і няма ў нас сапраўднага нацыянальнага лідэра (нездарма-ж кажуць: "Які поп, такі і прыход"), які згуртаваў-бы вакол сябе насельніцтва ў народ і павёў да сапраўднае незалежнасьці. Ёсьць сёньня хіба антынацыянальныя лідэры (гаворым толькі пра тых, што пры ўладзе). Але што маем — тое маем...

**BELARUSIAN DIGEST**
**Беларускі Дайджэст**

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## Belarus and I.A.E.A. Sign Safeguards Agreement

On April 14, 1995 the Republic of Belarus and the International Atomic Energy Agency (IAEA) signed the safeguards agreement. On behalf of Belarus, the agreement was signed by Mr. Ivan Kenik, Minister of Emergency Situations and Protection of Population from the Consequences of the Chernobyl Disaster. Mr. Uladzimir Syanko, Minister of Foreign Affairs of Belarus, was present at the ceremony.

The safeguards agreement was concluded in accordance with Article 3 of the Nuclear Non-Proliferation Treaty. Belarus joined the Treaty in July, 1993.

---

**У Вільнюсе прайшла сустрэча міністра зносін Літоўскай Рэспублікі Йонаса Біржышкіса і міністра транспарту і камунікацый Беларусі Аляксандра Лукашова. Дасягнута дамоўленасць аб далейшым развіцці аўтамабільных пасажырскіх перавозак паміж Літвой і Беларуссю, а таксама транзітных паездак у Калінінградскую вобласць.**

Паводле звестак беларускай асацыяцыі службы "Грамадская думка", атрыманых у апошнія дні сакавіка падчас сацыялагічнага апытання на тэрыторыі Віцебскай вобласці, больш як палова рэспандэнтаў -- ад 52,9 да 84,3 працэнта -- станоўча адказала б на ўсе чатыры пытанні, якія Прэзідэнт прапанаваў вынесці на ўсенародны рэферэндум.

**З дасведчаных крыніц стала вядома, што Міністэрства культуры і друку сумесна з Міністэрствам фінансаў маюць намер спыніць фінансаванне выданняў, што друкуюцца на беларускай мове, якая існавала да 1933 года, -- так званай "тарашкевіцы". Гэта, у прыватнасці, часопісы "Мастацтва", "Бярозка" і іншыя. Намеснік міністра культуры і друку Іван Карэнда так пракаменціраваў сітуацыю: "Пакуль ніякіх фактычных спроб спыніць фінансаванне не было, аднак мы папярэджваем выданні, што трэба карыстацца не "тарашкевіцай", а нарматыўнай мовай".**

З 1 красавіка на два-тры месяцы закрываецца "для прафілактычных работ і замены абсталявання" 8-ы тэлеканал. Пра гэта заявіў намеснік міністра сувязі і інфарматыкі Анатоль Будай.

---

**Станіслаў БАГДАНКЕВІЧ:** ЗВЯЗДА

## «АСНОЎНЫЯ ПРАБЛЕМЫ БЕЛАРУСІ ІДУЦЬ ЗНУТРЫ»

Учарашняя прэс-канферэнцыя старшыні Нацбанка Беларусі, акрамя праблем эканомікі, закранула і тэму, што апошнім часам актыўна абмяркоўваецца беларускім істэблішментам: магчымасць адстаўкі Станіслава Багданкевіча. Каменціруючы колішнія выказванні Прэзідэнта Беларусі аб тым, што ён папросіць Багданкевіча пакінуць пасаду старшыні Нацбанка ў выпадку, калі Багданкевіч будзе балаціравацца ў дэпутаты, Станіслаў Антонавіч заявіў: «Я закон не парушаю. А здымаць мяне можна, калі мне прад'являць абвінавачанні ў дзеяннях, за якія можна зняць. Не думаю, што Прэзідэнту патрэбна мяне здымаць». Тлумачачы не менш вострае пытанне аб узаемаадносінах Нацбанка з прадстаўнікамі выканаўчай улады, Станіслаў Багданкевіч заявіў, што зараз з прэм'ер-міністрам яны знайшлі агульную мову.

Гаворачы аб праблемах эканомікі, С. Багданкевіч пералічыў фактары, якія стрымліваюць падзенне курса беларускага рубля. Па-першае, гэта прызнанне беларускага рубля адзіным плацежным сродкам на тэрыторыі Беларусі; па-другое, узмацненне бюджэтнай і грашова-крэдытнай палітыкі; па-трэцяе, каардынацыя дзеянняў Нацбанка і Кабінета Міністраў. «Усе гэтыя меры не мой асабісты экспромт, як гэта імкнуцца інтэрпрэтаваць некаторыя эканамісты, а ажыццяўленне палажэнняў, закладзеных у праграму, прынятую яшчэ ў кастрычніку мінулага года», — заявіў Багданкевіч. Новая дэпазітная палітыка (месячныя стаўкі з улікам змяненняў курса) змагла ў студзені лютым скараціць запазычанасці па пазыках на 45 млрд. рублёў. Інфляцыя ў студзені склала 39 працэнтаў, а ў лютым — 33. Тут спадар Багданкевіч патлумачыў, што па яго звестках інфляцыя ў лютым склала 25 працэнтаў, але прэм'ер-міністр загадаў улічыць суму ад павелічэння тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі, што ў выніку і склала 33 працэнты. Гэта азначае, што ў сакавіку ўрад здолее абвясціць аб зніжэнні працэнта інфляцыі на некалькі пунктаў. Па словах спадара Багданкевіча, павелічэнне мінімальнай заработнай платы не дасць магчымасці дасягнуць запланаванага ўзроўню інфляцыі: «Я заўсёды выступаў за павелічэнне мінімальнага заробку работнікам толькі бюджэтнай сферы», — зазначыў ён.

Каменціруючы перспектыву развіцця беларускай эканомікі, спадар Багданкевіч заявіў, што галоўная праблема знаходзіцца ўнутры беларускай эканомікі. «Нам трэба змагацца супраць інфляцыі і фактараў, што яе ўтвараюць. Калі гэтага не будзе, то адзін Багданкевіч нічога зрабіць не зможа. У вышэйшых эшалонах улады і не толькі ў Прэзідэнта, вагаюцца адносна тэмпаў рынкавых пераўтварэнняў, што ў значнай ступені запавольвае іх хаду», — адзначыў спадар Багданкевіч. Старшыня Нацбанка заявіў, што ў хуткім будучым магчымы ўвод ў абарачэнне купюр вартасцю ў 50 і 100 тысяч рублёў.

Каменціруючы вынікі знаходжання на Беларусі місіі МВФ, якая скончыла сваю работу 13 лютага, спадар Багданкевіч заявіў, што, нягледзячы на недахопы ў рабоце Нацбанка з банкамі Беларусі, прадстаўнікі МВФ былі задаволены сістэмай валютнага рэгулявання, якой карыстаецца Нацбанк. Тлумачачы магчымыя вынікі адмены падатку на дабаўленую вартасць на экспарт, спадар Багданкевіч адзначыў: «Мяркую, што адмена падатку не выкліча рэзкага падзення курса рубля, але ўраду прыйдзецца знаходзіць дадатковыя сродкі на пакрыццё ўзнікшай дзіркі».

**Юрась КАРМАНАЎ.**

---

**Анры ЛАРЫ:** ЗВЯЗДА

## «МІСІЯ МВФ НЕ ЗАДАВОЛЕНА ЭКАНАМІЧНЫМІ ПЕРАЎТВАРЭННЯМІ НА БЕЛАРУСІ»

**Як стала вядома карэспандэнту «Звязды», пасля пяцідзённага знаходжання на Беларусі і вывучэння становішча ў эканоміцы нашай краіны місія МВФ 23 сакавіка накіравала ліст у Кабінет Міністраў Беларусі. У лісце паведамляецца, што місія МВФ будзе рэкамендаваць Савету дырэктараў МВФ адкласці выдаткаванне Беларусі крэдыту «stand-by « агульнай сумай 250 млн. долараў. «З нагоды» рашэння місіі МВФ кіраўнік місіі саветнік 2-га еўрапейскага ўпраўлення МВФ Анры Лары згадзіўся даць інтэрв'ю газеце «Звязда».**

**– У мінулы Ваш прыезд у студзені гэтага года місія МВФ таксама выказала шэраг заўваг па эканамічнай сітуацыі на Беларусі. Але крэдыт STF Беларусі выдаткавалі. Што выклікала адмоўную рэакцыю місіі на гэты раз?**

— Мэта місіі — паглядзець, як выконваецца праграма беларускага ўрада па вываду эканомікі з крызісу, каб потым рэкамендаваць Савету дырэктараў МВФ выдзеліць ці не Беларусі крэдыт «stand-by». Як мы і чакалі, назіраючы за ходам эканамічных пераўтварэнняў на Беларусі з Вашынгтона, праграма ўрада Беларусі выконваецца нездавальняюча. Апрача таго, што мы не задаволены выкананнем праграмы, пад якую МВФ ужо выдаткаваў Беларусі крэдыт STF у памеры 100 млн. долараў, урад Беларусі жадаў бы атрымаць пад гэтую праграму дадатковы крэдыт «stand-by». Між тым, мы ўбачылі, што ўраду не ўдалося дасягнуць змяншэння ўзроўню інфляцыі: згодна з абавязацельствамі мінулага года ўзровень інфляцыі на пачатак гэтага года павінен быў скласці 10—12 працэнтаў у месяц, у той час як ужо за тры месяцы бягучага года інфляцыя ў Беларусі складае 35—40 працэнтаў.

Дагэтуль не выконваецца шэраг запэўніванняў і абяцанняў урада па структурных пераўтварэннях у эканоміцы. Напрыклад, у сферы прыватызацыі няма аніякага руху, нягледзячы на падпісаны вашым Прэзідэнтам указ аб прыватызацыі. Спадзяёмся, што абяцаны беларускім урадам 30 сакавіка аўкцыён, на які будуць выстаўлены 45 аб'ектаў дзяржмаёмасці, адбудзецца.

Былі ажыццёўлены спробы стабілізаваць абменны курс рубля. Але існуе парадокс: на Беларусі стабільны курс пры вельмі высокай інфляцыі. Нацыянальны банк Беларусі не ўмешваўся і не прыпыніў грашовай эмісіі, а паспрабаваў правесці працэс праз камерцыйныя банкі, якія выдаткоўваюць крэдыты. Мы спадзяваліся, што валютны рынак Беларусі лібералізаваны і на яго ёсць свабодны доступ, як гэта і заяўляў сп. Багданкевіч, але, на жаль, мы гэтага не заўважылі. Адбыцца ж гэта павінна было яшчэ да таго, як прыехала місія МВФ. Акрамя сказанага, місія заўважыла, што становішча ў эканоміцы не карэкціруецца ў адпаведнасці са змяненнямі эканамічнай сітуацыі.

**– Якія прапановы МВФ змяшчаюцца ў дадатку да ліста ў Кабінет Міністраў?**

— Я хацеў бы заўважыць і місія МВФ, і беларускія ўлады расчараваны вынікамі, да якіх мы прыйшлі. Але не трэба драматызаваць становішча. Тое, што мы бачым, — паўза. Мы мяркуем, што адтэрміноўка ў выдзяленні крэдыту «stand-by» дазволіць беларускаму ўраду зрабіць рашучыя крокі па змяншэнню інфляцыі. У дадатку да ліста ў Кабінет Міністраў мы раім ураду паскорыць прыватызацыю ў бліжэйшыя тыдні. Перш чым МВФ выдаткуе крэдыт Беларусі, мы павінны ўбачыць відавочны прагрэс: настойлівыя спробы ўрада палепшыць становішча. Прыкметы таго, што рэформы ідуць, павінны быць цвёрдымі і яснымі.

**– Ці паўплывае на рашэнне МВФ заява Прэзідэнта Беларусі аб тым, што ён выдасць указ, дзе загадае замарозіць цэны і зарплату?**

— Пры сустрэчы з прэм'ер-міністрам Беларусі Міхаіл Чыгір нас запэўніў, што такога ўказа не рыхтуецца. Дарэчы, не трэба забываць, што крэдыты трэба вяртаць. Беларусь павінна пацвердзіць сваю крэдытаздольнасць не толькі перад МВФ, але і перад іншымі крэдыторамі. А калі адны заявы, па палітычных прычынах, робяцца для асобнай катэгорыі грамадзян, другія — для насельніцтва, трэція — для місіі МВФ, то гэта рызыкуе падарваць аўтарытэт краіны. Альбо ўрад шчыра прытрымліваецца рэформаў і робіць паслядоўныя заявы, альбо Беларусь губляе вялікія патэнцыяльныя магчымасці па сувязях з Захадам і руйнуе падмурак супрацоўніцтва.

**– Хісткасць палітычнага становішча напярэдадні парламенцкіх выбараў у Беларусі ўлічвалася місіяй?**

— Сітуацыя з парламенцкімі выбарамі не паўплывала на рашэнне місіі МВФ.

**Рубрыку вядзе Юрась КАРМАНАЎ.**

---

***ВЫБАРЫ-95*** "ЗВЯЗДА"

## ВЫЛУЧАНА 2439 КАНДЫДАТАЎ

Як паведаміў старшыня Цэнтрвыбаркома Аляксандр Абрамовіч 6 красавіка на «круглым стале» «Сродкі масавай інфармацыі і выбары», усяго вылучана кандыдатамі ў дэпутаты новага парламента 2439 чалавек. Найбольшая палітычная актыўнасць, як і чакалася, дасягнута ў Мінску: 610 прэтэндэнтаў на 42 акруг. У абласцях колькасць вылучаных кандыдатаў менш чым 10 чалавек на месца: у Брэсцкай вобласці вылучана 272 кандыдаты (37 акруг), у Віцебскай — 310 (37), Гомельскай — 338 (40), Гродзенскай — 252 (31), Мінскай — 372 (41), Магілёўскай — 285 (32). Як адзначыў А. Абрамовіч, гэта меней, чым чакалася. Акрамя таго, можна меркаваць, што частка вылучаных кандыдатаў не зможа прайсці рэгістрацыю з-за незаконна праведзенай працэдуры вылучэння або няправільна аформленых дакументаў.

А. Абрамовіч зазначыў, што ўжо накіраваны пісьмы ў Савет Еўропы, НБСЕ і іншыя аўтарытэтныя міжнародныя арганізацыі з запрашэннем прыслаць назіральнікаў на нашы выбары.

Размова аб ролі сродкаў масавай інфармацыі ў выбарчым працэсе была на «круглым стале» доўгай і даволі складанай. Гэтае пытанне з'яўляецца слаба адрэгуляваным у заканадаўстве. Рэзюме размовы зводзіцца да наступнага тэзісу: прэса можа быць вольнай у сваіх ацэнках, каментарыях адносна выбараў у межах Закона аб друку, меркаванні і каментарыі павінны быць абгрунтаваныя, кандыдатам у дэпутаты павінны быць прадастаўлены роўныя магчымасці. Як зазначыў юрыдычны эксперт, дацэнт Белдзяржуніверсітэта Міхаіл Чудакоў, нядаўні ўказ Прэзідэнта № 124, які рэгламентуе гэтыя роўныя магчымасці для кандыдатаў, супярэчыць у пунктах 5 і 7 Закону аб выбарах Вярхоўнага Савета. Эксперт Міжнароднага інстытута прэсы Олаф Хансан, які быў у Беларусі падчас мінулагодняй прэзідэнцкай кампаніі, сказаў, што сітуацыя са свабодай сродкаў масавай інфармацыі ў Беларусі з таго часу не палепшылася.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

---

## БЕЛАРУСЬ І СВЕТ

Па мінулагодніх эканамічных паказчыках некаторых еўрапейскіх краін, у тым ліку і Беларусі, якія былі адзначаны спецыялістамі, складзены наступны графік. На гэты раз змешчаная пад рубрыкай «Беларусь і свет» інфармацыя дае магчымасць параўнаць тэмпы росту ўнутранага валавога прадукту ў працэнтным выражэнні (у дужках лічбы за 1993 год).

Беларусі трэба вырашыць яшчэ шмат пэўных задач ва ўласнай эканоміцы, каб паступова перайсці з адмоўных пазіцый на станоўчыя. Прыклады, як бачым, ёсць: тая ж Польшча і Літва, якія маюць вельмі падобнае на наша геапалітычнае і эканамічнае становішча, робяць някепскія поспехі.

**Юрась НАВУМЕНКА.**

***P.S. Па матэрыялах Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь, Дзяржкамстата Расійскай Федэрацыі, замежнай прэсы.***



# ПЛЫВЕ КАНТЭЙНЕР на БЕЛАРУСЬ...

30-га Сакавіка 1995 г. адплыў на Беларусь "чыста беларускі" 40-футовы кантэйнер з мэдычным ладункам.

Галоўным спонсарам гэтага кантэйнера лічыцца сям'я Анатоля Лук'янчука з Огайо. Другарадным спонсарам значыцца сям'я Міколы Прускага з Мішыган.

Мэдычны ладунак (18 тонаў) прызначаны ў дзьве бальніцы, — палавіна ў Берасьцейскую абласную, а другая палавіна ў Стаўпцоўскую рэгіянальную.

Нядаўна мы абмяняліся думкамі з галоўным спонсарам кантэйнера Анатолем Лук'янчуком. Нам вядома, што Спадар Анатоль адзін з тых ціхіх, добрасумленных і шчырых людзей беларускае дыяспары, які трымае першынство ў дапамаговай дзейнасьці на карысьць патрабуючае Беларусі.


Натальля і Анатоль Лук'янчукі

**Анатоль, скажы крыху пра сваю фінансавую ды іншую дапамогу беларускаму народу.**

Папершае, я вельмі рады, што маю магчымасьць дапамагаць сапраўды патрабуючым людзям. Гэта, відаць, выплывае з майго рэлігійна глыбокага пачуцьця дабрачыннасьці. Магу ўспомніць некаторыя ведамыя аб'яднаньні, якія ўжо скарысталі з мае дапамогі. Ну скажам Полацкая царква, арганізацыя сьляпых, Жыровіцкі манастыр (некалькі разоў), Мірскі замак (два рвзы), балетная школа для дзяцей...

**Ці гэтая вялікая дапамога хоць у нейкай ступені апраўдала Тваё спадзяваньні і вымаганьні?**

Так, тут я ня маю ніякіх засьцярогаў, хоць хацелася-б часамі атрымаць нейкую больш дакладную інфармацыю, як гэтая дапамога рэалізуецца.

**Ці маглі-б беларусы Заходніх краін, на Тваю думку, быць больш ахвярнымі на карысьць дапамогі Беларусі па розных напрамках прызначэньня?**

Так, маглі-б. Кожны чалавек можа ахвяраваць нейкую дапамогу, — адзін меншую, іншы большую. Але для гэтага трэба мець нейкае пачуцьцё адказнасьці і выхаваньне. Калі, скажам, 500 чалавек скінуцца па 10 даляраў, дык гэта ўжо значная сума, а калі па больш, глядзіш, і сапраўды ўжо атрымаецца нешта вялікае. Можа варта было-б утварыць агульна-беларускі фонд... Разам мы можам зрабіць шмат чаго добрага, але для гэтага патрэбная добрая воля і шмат, шмат працы.

**І апошняе пытаньне. Ці маеш намер далей прадаўжаць сваю дапамаговую дзейнасьць, але цяпер ужо больш выборчыва і дамэтна?**

Я з жонкай Натальляй вельмі ўдзячныя Богу, што мы змаглі цяжкаю працай асягнуць тое, што маем. Таму, мабыць, мы цешымся магчымасьцю дапамагчы тым, хто мае мала. І далей, калі толькі будзе магчымасьць (а гэта залежыць ад бізнэсу), будзем старацца прадаўжаць нашу харытатыўную дапамогу і дзейнасьць для патрабуючых нашых людзей і арганізацыяў.

Дзякую, гутарыў М. Прускі.

PS. Зусім нядаўна нам паведамілі, што за тыдзень-два пачнецца працэс фармаваньня перасылкі на Беларусь вельмі дарагіх спэцыяльных лекаў на суму некалькіх мільёнаў даляраў. Груз прызначаецца для Беларускага Дзіцячага Фонду. Цудоўная навіна!!!


М. Прускі даглядае пагрузку кантэйнера


Прызначаны для Беларусі ладунак

## Сколько стоит ваш звонок

Продолжают расти тарифы на услуги междугородней и международной телефонной связи. За ними, как, впрочем, и за другими ценами, трудно угнаться. Поэтому, чтобы вы, уважаемые читатели, смогли принять оптимальное решение -- звонить, или можно обойтись и без звонка (а если время терпит, возможно рациональнее будет воспользоваться услугами Главпочтампта) приводим стоимость одной минуты телефонного разговора в пределах Республики Беларусь, ближнего и дальнего зарубежья, установленную с 16 января текущего года (цена в рублях).

| | |
|---|---|
| По Беларуси | 200-400 |
| Азербайджан (Баку) | 3.000 |
| Армения (Ереван) | 3.000 |
| Казахстан (Алма-Ата) | 3.300 |
| Молдова (Кишинев) | 2.400 |
| Россия (Москва) | 3.000 |
| Южно-Сахалинск | 4.200 |
| Украина (Киев) | 2.400 |
| Латвия, Литва, Эстония | 6.000 |
| Австрия (Вена) | 9.000 |
| Англия (Лондон) | 12.000 |
| Венгрия(Будапешт) | 9.000 |
| Германия (Бонн) | 9.000 |
| Греция (Афины) | 12.000 |
| Дания (Копенгаген) | 9.000 |
| Израиль (Тель-Авив) | 24.000 |
| Италия (Рим) | 9.000 |
| Канада (Оттава) | 21.000 |
| Норвегия (Осло) | 9.000 |
| Польша (Варшава) | 6.000 |
| Словакия (Братислава) | 9.000 |
| США (Вашингтон) | 21.000 |
| Турция (Анкара) | 12.000 |
| Франция (Париж) | 9.000 |

При этом нелишне будет знать, что если ваш разговор хотя бы на несколько секунд перевалил минутный интервал, то и неполная минута оплачивается как полновесная.

**Владимир ТАРАСЕВИЧ**

*У АБАРОНУ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ*

## ЗВАРОТ У ААН

"Голас Радзімы"

**"Дзеці Беларусі павінны вучыцца, а таксама мець магчымасць прадоўжыць навучанне на роднай мове ў вышэйшых навучальных установах, і гэта павінна быць клопатам дзяржавы", -- сказаў журналістам Мікола Купава, як прадстаўнік каардынацыйнага камітэта па абароне беларускай мовы ў Прадстаўніцтве ААН у Беларусі.**

**Камітэт быў утвораны на пачатку лютага і аб'ядноўвае каля трыццаці грамадскіх арганізацый Беларусі, якія занепакоены стаўленнем да беларускай мовы з боку ўрада Беларусі.**

**Напярэдадні першай гадавіны прыняцця новай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь прадстаўнікі новаўтворанага камітэта перадалі Зварот да сусветнай супольнасці ў сакратарыят Прадстаўніцтва ААН, што ў Мінску, тэкст якога друкуецца ніжэй.**

**ПРАДСТАЎНІЦТВУ<br>АРГАНІЗАЦЫІ АБ'ЯДНАНЫХ НАЦЫЯЎ<br>У РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ**

**Шаноўнае спадарства!**

**Мы, прадстаўнікі шэрагу грамадскіх арганізацый Беларусі, звяртаемся да вас як да прадстаўнікоў міжнароднай супольнасці, каб праінфармаваць пра дыскрымінацыю нас, беларусаў, па нацыянальнай прыкмеце, пра парушэнне нашых чалавечых правоў і правоў нашых дзяцей. Спадзяемся на разуменне і падтрымку.**

**У Рэспубліцы Беларусь больш за 300 тысяч дзяцей вучацца ў сярэдніх школах у роднай беларускай мове, якая паводле Канстытуцыі краіны з'яўляецца дзяржаўнай. Тым не менш, атрымаўшы сярэднюю адукацыю, выпускнікі беларускіх школаў не маюць магчымасці працягваць яе на беларускай мове ў вышэйшых навучальных установах, бо ў Беларусі няма ніводнага нацыянальнага універсітэта. Уся вышэйшая адукацыя вядзецца ў замежнай мове былой краіны-каланізатара -- рускай. У 1995 годзе сярэднія школы з беларускай мовай навучання заканчваюць 13 тысяч вучняў, і яны, такім чынам, не змогуць рэалізаваць свае чалавечыя правы ў галіне вышэйшай адукацыі.**

**Неаднаразовыя звароты да дзяржаўных органаў Беларусі: Міністэрства адукацыі, Савета Міністраў, Вярхоўнага Савета і апошні зварот у кастрычніку 1994 года да Прэзідэнта Беларусі -- засталіся без станоўчага адказу. Мы вымушаны апеляваць да міжнароднай супольнасці, каб яна праз ААН аказала адпаведны яе паўнамоцтвам уплыў на дзяржаўныя інстытуты Рэспублікі Беларусь дзеля забеспячэння імі правоў чалавека на атрыманне адукацыі ў роднай мове.**

**Мы лічым, што немагчымасць нашымі дзецьмі атрымаць вышэйшую адукацыю ў беларускай мове з'яўляецца парушэннем артыкулаў 3, 13, 14, 15, 17, 21, 22, 50, 59 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і артыкулаў 2, 22, 23, 26, 27 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, якія ратыфікаваны Беларуссю як членам ААН.**

**Лічым неабходным прыезд на Беларусь камісій ААН па правах чалавека і правах дзіцяці. Гатовы прадаставіць іх увазе дакладныя і змястоўныя матэрыялы па ўзнятым пытанні.**

## *ЧУТКА ТЫДНЯ*

**БелаПАН паведаміў, што Міністэрства культуры і друку сумесна з Міністэрствам фінансаў маюць намер спыніць фінансаванне выданняў, якія выходзяць на "тарашкевіцы" — правапісе, які быў адменены ў 1933 годзе. Сярод "прэтэндэнтаў" на спыненне фінансавання названы часопісы "Мастацтва", "Бярозка" і, як сказана ў паведамленні, "іншыя". Намеснік міністра культуры і друку Іван Карэнда гэтак пракаментаваў агенцтву сітуацыю: "На сёння ніякіх фактычных спроб спыніць фінансаванне не было, аднак мы папярэджваем выданні, што трэба карыстацца не "тарашкевіцай", а нарматыўнай мовай".**

## *ПУБЛІКАЦЫЯ ТЫДНЯ*

**"Газета Андрея Климова" ў апошнім сваім нумары надрукавала надта цікавы фельетон, заснаваны на "амерыканскім" матэрыяле. Аўтар Фёдар Падрэзнік назваў яго "Вместо одной страны другая...", чым даў зразумець усім, што маецца на ўвазе. Больш дасціпнага высмейвання прапаноў нашага прэзідэнта, вынесеных на рэферэндум, мы яшчэ не чыталі. Дзякуй.**

"Беларускі Дайджэст" чакае
Вашае ахвяры на Выдавецкі Фонд!!!



# Аляксандр БАРШЧЭЎСКІ: «Рускія і палякі пераканалі мяне ў тым, што я — беларус»

"Наша Слова"

***Інтэрв'ю прафесара Варшаўскага універсітэта, ганаровага прафесара Беларускага дзяржаўнага універсітэта, ганаровага старшыні Беларускага грамадска-культурнага таварыства і старшыні праўлення беларусазнаўчага таварыства ў Польшчы, сустаршыні Беларускага саюза фалькларыстаў Аляксандра Баршчэўскага.***

**— Спадар Баршчэўскі, Вы шмат гадоў працуеце на ніве беларускай культуры. У свеце Вас ведаюць як вучонага, паэта і грамадскага дзеяча. Зразумела, што здабыць высокія навуковыя званні і ганаровыя тытулы, а тым больш стаць нацыянальным паэтам Беларусі, жывучы ўвесь час па-за яе межамі, справа не з лёгкіх. Таму на пачатку нашай гутаркі хацелася б ад Вас пачуць пра вытокі жыццёвай дарогі, што завяла Вас аж так далёка.**

— Я нарадзіўся ў даваеннай Польшчы на Беласточчыне. Родная вёска Бандары — на ўскраіне Белавежскай пушчы, за 8 кіламетраў ад сучаснай мяжы з Рэспублікай Беларусь. Паходжу з праваслаўнай сям'і. Бацька і дзядзькі ваявалі ў Першую сусветную вайну ў шэрагах царскай арміі. На жаль, у спадчыну я пераняў тую памылковую тэзу, якая яшчэ і сёння ў нейкай ступені праяўляе свой віталізм, а менавіта, што раз ты праваслаўны, то і рускі.

**— Вы лічылі сябе рускім?**

— Не лічыў, бо памятаў размову са сваім дзядзькам, які ў 1914 г. быў прызваны ў Балтыйскі флот. Ён мне казаў, што як ішоў служыць у армію, то быў перакананы, што ён рускі, а тым часам рускія, з якімі давядося служыць у флоце, пераканалі яго ў тым, што ён беларус. А чаму? Таму што высмейвалі кожнае яго слова. А гаварыць ён мог толькі па-свойму. Гэта высмейванне і зрабіла з майго дзядзькі свядомага беларуса. Думаю, штосьці падобнае адбылося і са мной, хоць у флоце я не служыў. Праявы польскага і рускага нацыяналізму пераканалі мяне ў тым, што я ані паляк, ані рускі, а толькі беларус, і што трэба трымацца свайго нават тады, калі даводзіцца плаціць за гэта пэўную цану. Несумненна, усе тыя, хто падкрэслівае сваю іншасць у адносінах да большасці, дзе б яны ні жылі ў свеце, у нейкай ступені церпяць і плацяць за гэта пэўную цану. Такую цану плачу і я. Не кажу, што цярплю дыскрымінацыю з нагоды маёй нацыянальнай прыналежнасці да беларускага народа, аднак тое, што не залічваю сябе да нацыянальнай большасці ў Польшчы, ацэньваецца некаторымі адмоўна.

**— Вы адрозніваеце шавінізм ад нацыяналізму?**

— Гэта розныя з'явы. Шавінізм — з'ява агідная, а нацыяналізм — нармальная і здаровая. На маю думку, апошнюю якасць (нацыяналізм) трэба прышчэпліваць беларускім сэрцам, асабліва сёння, калі наша нацыя такая аслабленая. Калі нацыяналіст на першае месца ставіць сваё, адначасна з павагай ставячыся і да чужога, то шавініст на першае месца ставіць сваё і топча нагамі, ненавідзіць усё чужое. Польскі нацыяналізм дае прыклад беларусам, як цаніць, шанаваць і бараніць сваю мову, культуру, нацыянальную самабытнасць, урэшце, гонар ва ўмовах іншаземнага ўціску. У пасляваенны час польскі народ не паддаўся ўплыву з Усходу ў такой меры, як беларускі, і захаваў нацыянальнае адзінства і годнасць.

**— Вы вучыліся ў беларускай школе?**

— У польскай. Беларускіх у маёй мясцовасці не існавала. Я належаў да моладзі, што ў часе вайны не вучылася. На 1948 год, у свае васемнаццаць, я меў пяць класаў пачатковай адукацыі. Каб нагнаць упушчанае, паступіў на спецыяльныя двухгадовыя курсы, на падабенства савецкага рабфака, што давалі падрыхтоўку за праграму сярэдняй школы. Такія школы ў нас ствараліся пасля вайны для пераросткаў. Курсы скончыў у 1951 г. у Любліне, а паколькі традыцыйныя сімпатыі да «старэйшага брата» яшчэ адыгрывалі ролю, паступіў на рускую філалогію ў Лодзі. Калі заканчваў вучобу, ужо адчуваў, што ў мундзіры расійскай свядомасці мне цесна. Ён мяне душыў. І калі дачуўся, што ў Варшаўскім універсітэце ствараецца катэдра беларускай філалогіі, паехаў туды і папрасіў прыняць мяне на працу, заявіўшы, што я беларус і хацеў бы працаваць менавіта на гэтай катэдры. З 1956 г. я там і працую. Абараніў кандыдацкую, затым доктарскую дысертацыі. Кандыдацкую па творчасці Якуба Коласа, а доктарскую на тэму: «Беларускі фальклор і абрадавасць Усходняй Беласточчыны (нараджэнне, вяселле, смерць)».

**— Працягваеце ствараць падручнікі па беларусазнаўству?**

— Я аўтар двух падручнікаў па гісторыі беларускай літаратуры для студэнтаў. Першы прысвечаны характарыстыцы беларускага фальклору, другі — літаратуры Вялікага Княства Літоўскага. У перспектыве — падручнік па беларускай літаратуры XIX стагоддзя і нашаніўскаму перыяду. З'яўляюся сааўтарам двух падручнікаў па беларускай літаратуры для 8 класа. У сааўтарстве з вядомымі даследчыкамі беларускай гісторыі Аляксандрай Бергмановай і Юрыем Тамашэўскім выдаў на польскай мове кнігу пра папулярнага рэвалюцыйнага беларускага пасла Сойму Рэчы Паспалітай Ігната Дварчаніна. Апублікаваў дзесьці з семсот артыкулаў на старонках беластоцкай «Нівы» і беларускіх календароў па гісторыі беларускай літаратуры і фальклору. Цяпер рыхтую кніжкі па беларускаму літаратурнаму руху ў Польшчы і гісторыі беларускай эміграцкай літаратуры. На шчасце, у польскіх бібліятэках знаходжу шмат беларускай эміграцкай перыёдыкі.

**— А ў беларусазнаўстве што для Вас на сённяшні дзень найбольш прыцягальнае?**

— Мабыць, фальклор. Для мяне ён — народная інтэрпрэтацыя ўсяго, што ёсць на свеце: палітыкі, рэлігійнага і нацыянальнага пытанняў, іншых праблем. Матэрыялы такога роду я збіраў і збіраю сам у час фальклорных экспедыцый. Часам надараюцца надзвычай цікавыя сітуацыі.

**— Напрыклад?**

— Напрыклад, народная інтэрпрэтацыя кахання. З боку мужчын і з боку жанчын погляды на гэту праблему дыяметральна адрозніваюцца. Або як па-рознаму людзі ацэньваюць капіталізм. У «Ніве» я нават змясціў публіцыстычны цыкл «Беларускія капіталісты», а таксама цыкл артыкулаў пад назвай «Вайсковы саюз паміж Расіяй і Беларуссю». Галоўнае ў гэтых інтэрпрэтацыях — а я рыхтую вялікі том да друку — выказванні людзей на зададзеную тэму. Мой каментар адыгрывае другарадную ролю. Як бачыце, я цвёрда стаю на беларускім грунце і не думаю, што ёсць такая сіла, якая прымусіла б мяне яго пакінуць. Я не герой і не падзвіжнік, але, несумненна, належу да тых рэдкіх у Польшчы беларусаў, якія, пастаянна жывучы ў вялікім горадзе, дома паслугоўваюцца выключна роднай мовай. І не толькі дома, а і на вуліцы, і ў транспарце, не кажучы ўжо пра той час, калі даводзіцца бываць на Беласточчыне.

**— А ў Варшаўскім універсітэце на сваёй катэдры?**

— Калі да мяне, загадчыка катэдры беларускай філалогіі, прыходзяць студэнты, я заўсёды з імі размаўляю па-беларуску. Аднойчы мне зрабіў заўвагу дэкан, а я яму адказаў, што раблю гэта з дыдактычнымі мэтамі — дзеля карысці навучання і выхавання. І з таго часу ва універсітэце ніхто з беларускай мовы праблемы не робіць. Лічу, што мы непаслядоўна прымяняем беларускасць у жыцці, пасуем перад тымі, хто нас высмейвае за мову і прыналежнасць да свайго народа. Мы ўвесь час жывём у раздвоеным стане, у няшчырасці, у нейкім вечным прыніжэнні перад самаўпэўненай чужароднай стыхіяй і часта саромеемся таго, чым павінны ганарыцца. Я колісь ішоў з вашым вядомым гісторыкам літаратуры з Акадэміі навук Беларусі. Увесь час мы гаварылі з ім па-беларуску, а як толькі выйшлі на вуліцу, ён адразу зацвыркаў па-расійску. І што для мяне сёння самае драматычнае, гэта межы Рэспублікі Беларусь, якія дагэтуль, і пасля абвяшчэння незалежнасці, застаюцца расійскімі і савецкімі. Вось свежы прыклад: еду беларускім цягніком з Варшавы ў Менск. Уваходзіць беларускі пагранічнік. Адкрывае кожнае купэ і пытае:

— Расіяне? Расіяне? Расіяне?

Сядзяць беларусы — едуць хто ў Віцебск, хто ў Полацк і ні адзін з іх не запярэчыў. Толькі я сказаў, што я не расіянін. А хто?

— Беларус.

— Предъявите документы! Праверыў пашпарт і сказаў:

— Какой же вы белорус? Это же польский паспорт!

— Я грамадзянін Польшчы, але па нацыянальнасці я — беларус.

— Какой паспорт, такая и национальность.

**— Як кажуць, каментары лішнія.**

— Сапраўды. На маю думку, калі Беларусь хоча здабыць нейкую пашану з боку іншых народаў і замежных суайчыннікаў, то павінна задбаць перад усім аб тым, каб мяжа стала нацыянальнай. Бо калі прылятаеш у Менскі аэрапорт або перасякаеш дзяржаўную мяжу Беларусі ў Брэсцы ці Гародні, то пасля такіх размоў, як мая з гэтым пагранічнікам, 80 працэнтаў таго перакананне і той надзеі, што ты прыбыў у суверэнную і незалежную Беларусь, адразу прападае. Бачна, што краіна не нацыянальная, што ніякая. Ведаеце, у сваёй сітуацыі я патрабую няспыннай падтрымкі з боку свайго народа, — не фінансавай, не матэрыяльнай, а духоўнай. І калі я прыязджаю ў Беларусь і чытаю ў газеце, што з падачы Прэзідэнта зноў усплыло пытанне аб рэферэндуме па беларускай сімволіцы (каб яе адмяніць) і двухмоўі (каб другой дзяржаўнай мовай зрабіць рускую), то для мяне гэта страшэнная траўма, страшэнны ўдар. Я быў на Беларусі ў чэрвені і праслухаў па тэлебачанні ўвесь прэзідэнцкі марафон. Кандыдат у прэзідэнты Лукашэнка абяцаў, што ён запусціць заводы і фабрыкі, стрымае рост цэн, пакончыць з карупцыяй, інфляцыяй і г.д. То чаму ў гэтым аспекце, стаўшы Прэзідэнтам, Лукашэнка не рэалізоўвае волю народа і не выконвае дадзеныя яму абяцанні. А замест абяцаных рэформ і паляпшэння жыцця ён узяўся знішчаць нацыянальныя сімволіку і мову.

І яшчэ адно. Беларусы раскіданы па ўсяму свету і маюць уплыў на ўрады тых краін, у якіх жывуць. То ці захочуць яны дапамагаць такой Бацькаўшчыне, якой яна зараз становіцца, дзе, як і пры сталінізме, гань-буецца ўсё нацыянальнае. Яшчэ адзін прыклад з гэтай, як кажуць, оперы: нядаўна адбылася сустрэча прэм'ера Польшчы Паўляка з прэм'ерам Беларусі Чыгіром. Камедыйнасць сітуацыі заключалася ў тым, што перакладчык ад імя прэм'ера Польшчы паслугоўваўся беларускай мовай, а перакладчык ад сп. Чыгіра — расійскай. Ці не ёсць гэта форма кампраметацыі сваёй дзяржавы, сваёй нацыі і нацыянальнага гонару?

**— Раскажыце пра беларускія справы ў Польшчы. Іх плюсы і мінусы.**

— Нашы мінусы вынікаюць з нашай нацыянальнай слабасці і непаўнацэннасці. Тое, што характарызуе беларускі народ у Беларусі, выступае ў нейкай меры і ў Польшчы, з той, аднак, розніцай, што ў Польшчы беларуская вёска цалкам размаўляе на роднай мове, чаго няма ў вас. З гэтага вынікае, што нацыянальны ўціск на трохсоттысячны беларускі этнас на тэрыторыі Польшчы намнога слабейшы за той, які церпяць мільёны беларусаў на сваёй радзіме. Яшчэ адзначу, што ў Польшчы не была знішчана дзяржавай ніводная царква. Наадварот, сакральнае будаўніцтва бурна развіваецца і дзяржава гэтаму дапамагае.

**— А што сабой уяўляюць арганізацыйныя формы беларускага руху ў Польшчы?**

— Беларускі рух у Польшчы ажывіўся пасля таго, як там адбыўся паварот да новай нацыянальнай палітыкі. Пераломным стаў 1956 г. У вёсках адрадзілася беларуская школа, у Варшаўскім універсітэце ўзнікла катэдра беларускай філалогіі, а ў Беластоку пачало працаваць Беларускае грамадска-культурнае таварыства і яго друкаваны орган штотыднёвік «Ніва». У канцы 80-х гадоў пачалі дзейнічаць беларускія суполкі — нешматлікія, з рознай палітычнай арыентацыяй. Гэта Беларускае дэмакратычнае «Задзіночанне», Беларускі акадэмічны саюз (БАС), Саюз журналістаў у Польшчы, Саюз беларусаў у Польшчы, літаратурнае аб'яднанне «Белавежа», маладзёжнае аб'яднанне «Звяз». На жаль, паміж імі няма згоды. Я належаў і буду належаць да таварыства, і мы прынялі для сябе такую філасофію: ні ў якім выпадку не нападаць на іншыя беларускія арганізацыі, незалежна ад таго, якой праграмай яны карыстаюцца і як адносяцца да Таварыства і яго работы. Ні палак, ні каменняў, ні памыяў у сваім арсенале мы не маем, а адно толькі добрае слова.

**— Як ідуць справы ў «Белавежы»?**

— Аб'яднанне налічвае чалавек 15 паэтаў і празаікаў. Гэта Віктар Швед, Надзея Артымовіч, Сакрат Яновіч, Міра Лукша, Зміцер Шатыловіч, Васіль Пятручук, Уладзімір Гайдук, Мікалай Гайдук, Міхась Шаховіч і іншыя. Паколькі над намі не было ідэалагічнага прэса і ніхто не абавязваў тварыць у духу сацыялістычнага рэалізму, то кожны пісаў як хацеў. Старэйшыя выкарыстоўвалі творчыя традыцыі беларускай класічнай літаратуры, а маладзейшыя пераймалі ўзоры сучаснай польскай паэзіі — вельмі закрытай, некамунікатыўнай, суб'ектыўнай. Я ў гэтай паэтычнай амплітудзе займаю цэнтрысцкую пазіцыю. Я разумею, што мне нельга пісаць так, як пісаў Колас або Купала ў перыяд «Нашай нівы». Эвалюцыя верша — штосьці неабходнае. Развіваецца чалавецтва і яго культура, то павінна развівацца і літаратура. Карацей, паэзія — гэта свабода духу, і тут ні ў якім разе нельга накідваць чалавеку таго, што і як ён павінен пісаць.

**— І ўсё ж пагадзіцеся, што творчая эвалюцыя паэта залежыць у нейкай меры ад яго грамадзянскай пазіцыі. А як было ў Вас?**

— Як паэт і чалавек я многа атрымаў ад польскага сацыялізму, які не быў такім жорсткім як ваш. Беларуская вёска да вайны і ў ваеннае ліхалецце жыла ў страшэннай галечы і нядолі. Я памятаю бруд, клапоў, блох, каросту паміж пальцаў і тое, што хадзіў босы ад сакавіка да лістапада, бо адны боты былі на ўсю сям'ю. Я атрымаў адукацыю без дапамогі бацькоў, стаў прафесарам, то я не магу зараз кінуць камень у польскі сацыялізм, на баку якога я вельмі шчыра стаяў.

Акрамя таго, я захапляўся Беларускай сялянска-работніцкай грамадой, нават КПЗБ, ад якіх ішлі карані беларускага рэвалюцыйнага руху. Мне імпанаваў Фідэль Кастра як сімвал годнага супрацьстаўлення малога народа вялікаму. Усё гэта не магло адбіцца на ідэйным змесце майго першага зборніка «Белавежскія матывы». Сёння мая пазіцыя такая: калі вялікі змагаецца з малым, то я станаўлюся на бок слабейшага, — ці гэта будзе Амерыка ў В'етнаме або Грэнадзе, ці Саветы ў Венгрыі, Чэхаславакіі, Афганістане, а тым больш у Прыбалтыцы, Прыднястроўі і Чачні.

**— Вы апявалі «сацыялістычную яву»?**

— Апяваў. Але і ў першым зборніку маіх вершаў, адзіным, дзе ёсць такія творы, ёсць і рашучая дамінацыя матываў патрыятычных і прыродаапісальных. І ніводнага верша пра Леніна і Сталіна. Аб наступных зборніках — «Жнівень слоў», «Блізкасць далёкага», «Мой бераг», «Лірычны пульс» — магу сказаць: у іх мінімум палітычнага і максімум нацыянальнага, патрыятычнага.

**— Лічыце, што вядучай у творчасці павінна быць нацыянальная ідэя?**

— Я бачу ў ёй зараз адзіны паратунак для нацыі. У мінулым годзе на з'ездзе пісьменнікаў Беларусі я выказаў такую думку: савецкая беларуская літаратура верна служыла кампартыі, была апалагетам гэтай партыі, але было б вялікай памылкай з гэтай пазіцыі пераскочыць на пазіцыю апалагета капіталізму. Беларусы не павінны ўпусціць гістарычны шанц адрадзіцца ў суверэннай дзяржаве, на што скіроўвае менавіта нацыянальная ідэя. Аб гэтым трэба дбаць у першую чаргу. Як доўга аднак можна будзе бараніць адраджэнне мовы, культуры і самасвядомасці народа, сказаць цяжка, паколькі з'явіліся грозныя сімптомы беларусафобіі ў вышэйшых эшалонах улады Рэспублікі Беларусь.

**— У нас нават вынайдзены і адпаведныя тэрміны для азначэння «ўнутраных ворагаў», якія змагаюцца за адраджэнне народа, — гэта «нацыянал-радыкалы» і «нацыянал-фашысты».**

— Такія азначэнні пахнуць яжоўшчынай, і гэта страшна. Абавязак кожнага сумленнага мастака ратаваць сёння нацыянальны дух і нацыянальную культуру. Асабіста я гатоў іх бараніць да канца свайго жыцця. На шчасце, такіх, як я, у сённяшняй Беларусі бачу многа.

Я не вельмі веру ў месійнасць паэзіі, але лічу, што сёння яна павінна крычаць. І адчайна. Крычаць нават тады, калі ёсць упэўненасць, што з тысячы слоў, якія выкрычыш, толькі адно задзейнічае. Тыя, што маўчаць, нічога не абароняць і нічога не дакажуць.

**— Як бы Вы вызначылі сваё мастацкае крэда?**

— Як ідэю ратавання нацыі ў нас у Польшчы і ў вас на Беларусі. Ведаеце, я жыву ў Варшаве, але не напісаў пра гэты горад ніводнага

Ці Вы прыслалі ахвяру на "Беларускі Дайджэст"?

*( Працяг. Пачатак на с.4.)*

верша, хоць ён мне і блізкі. Не магу. Усё гэты магніт беларускі дзейнічае — Беласточчына. Апошні мой верш аб ёй таксама:

Мне сніцца малінавы звон,
Валошкавасць зорак высокіх.
Мой край — гэта ява і сон, —
Ён блізкі мне і далёкі...

**— Скажыце, калі ласка, у якім рэжыме пішаце? Ці шмат пішаце? І які лёс напісанага Вамі?**

— Ніколі не пішу ў рэжыме, па раскладу, а толькі калі да гэтага прымушае сэрца. Абдумваю толькі праграмныя вершы. Афарызмы прыходзяць у галаву нечакана і ў любым месцы. Добра пішацца на прыродзе. Пішу шмат. У доме адпачынку на вашай Ісласы — у краі, падобным на мой, — напісаў аднойчы больш за сто вершаў. І ўсе пра лес. Мае «Ісласкія эцюды» друкаваліся, здаецца, у «ЛіМе». У маіх твораў лёс незайздросны. Пераважная іх большасць не надрукавана.

**— Як працуе Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Беластоку?**

— Яно займаецца паратункам культуры і песні народнай. І гэта ў сітуацыі, калі сёння ў Польшчы вельмі дрэнна ставяцца да ўсялякіх ідэолагаў і партыйцаў. Людзі перасталі хадзіць на сустрэчы з палітыкамі, на спатканні з журналістамі, з болем у сэрцы гавару, што не ідуць яны і на спатканне з паэтамі. Але ідуць на спатканне з песняй. На фестывалях беларускай песні ў Беластоку канцэртныя залы перапоўнены. Апрача таго, вялікую імпрэзу арганізоўваем штогод на Купалле ў Белавежскай пушчы, на якую збіраецца 6—7 тысяч чалавек. Ужо па традыцыі на гэтыя святы прыязджаюць з Беларусі міністры: замежных спраў, адукацыі, культуры і друку.

Ужо шэсць гадоў таварыства будуе ў Гайнаўцы пры дапамозе беларускага ўрада і суайчыннікаў замежжа музей. На сучасны момант вялікую дапамогу атрымліваем ад Міністэрства культуры РБ.

**— Якую?**

— Міністр сп.Бутэвіч паспрыяў сябрам Беларускага літаратурнага аб'яднання ў Польшчы, каб яны маглі выдаваць свае кнігі ў беларускіх выдавецтвах, а пазбаўленае матэрыяльных сродкаў таварыства — «Беларускі каляндар». У перспектыве пажадана было б наладзіць на лініі Міністэрства культуры рэгулярныя гастрольныя паездкі творчых калектываў: нашых да вас, а вашых да нас. Хачу дабавіць, што пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусь пачала прымаць без экзаменаў у розныя ВНУ да 60 чалавек у год выпускнікоў беларускіх ліцэяў з Гайнаўкі і Бельска-Падляскага, забяспечваючы іх інтэрнатамі і стыпендыямі. Польскія беларусы зараз вучацца ў політэхнічнай акадэміі, медінстытуце, інстытуце культуры і педагагічных ВНУ. Апрача таго, Міністэрства адукацыі РБ у летні перыяд прымае на настаўніцкія курсы да 15 нашых педагогаў.

**— Беластоцкае таварыства мае свае філіі?**

— Маем у Варшаве, Гданьску, Гайнаўцы, Саколцы, Дуброве... У агульнай колькасці семнаццаць. Трагедыя заключаецца аднак у тым, што сёння, калі прыходзіць у жыццё капіталізм, які грунтуецца выключна на фінансавым разліку, нас пазбавілі амаль усіх нашых памяшканняў. За намі застаецца толькі памяшканне ў Беластоку, аднак існуе пагроза, што і яго мы страцім.

**— Урад вам дапамагае?**

— Урад фінансуе тры мерапрыемствы, а мы іх праводзім у год больш за семдзесят. Не маем грошай на ўтрыманне штатаў. Без памяшканняў, без тэлефонаў, без кантактаў з людзьмі як можна весці культурную працу?

**— Ці чытаеце нашы беларускамоўныя выданні?**

— На жаль, яны ў нас — рэдкая з'ява. Вучні беларускіх школ і ліцэяў, студэнты беларускіх філфакаў і выкладчыкі не маюць у Польшчы магчымасці карыстацца «Полымем», «Маладосцю», «ЛіМам» і іншай перыёдыкай, бо да гэтага часу стрымліваюць падпіску на вашы выданні якісьці дужа заблытаныя бюракратычныя абмежаванні.

**— Спадар Баршчэўскі, вядома, што Вы, наш часты госць, цесна супрацоўнічаеце з творчымі саюзамі і навуковымі ўстановамі, аб чым сведчаць хаця б Вашы тытулы і званні. Раскажыце пра гэта шырэй.**

— Першы раз я прыехаў у Менск як асістэнт Варшаўскага універсітэта ў 1957 г. і з таго часу быў тут мо з дзвесце разоў. У часе вандровак станавіўся сведкам многіх падзей, аб чым мы з вамі ўжо гаварылі. Не скажу, што нічога добрага ў вас дзеля людзей не рабілася. Я заўважаў, што зямля добра апрацоўвацца, прыгажэюць вёскі і растуць гарады, а ў грамадстве прыбаўляецца адукаваных людзей. Разам з тым, я з болем у сэрцы бачыў, як прыходзіць у занепад беларуская духоўнасць — мова, культура, гістарычная памяць. Зараз беларуская культура зводзіцца ў вас да нейкага музейнага скансену, аб чым маркую хаця б па вашых артыстах: ледзь сыдуць са сцэны — адразу пераходзяць на рускую мову. Мы пратэстуем і просім не прысылаць нам больш такіх прадстаўнікоў беларускай культуры. А што да маіх непасрэдных кантактаў з беларускімі ўстановамі і дзеячамі, то яны вельмі шырокія, і я гэтым ганаруся. Цесна супрацоўнічаю з Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Ф.Скарыны і яго дырэктарам Адамам Мальдзісам — блізкім мне па душы чалавекам. Аб характары нашага супрацоўніцтва можна меркаваць хаця б па тым, што Адам Іосіфавіч з'яўляецца прэзідэнтам Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, у якую Польскае беларусазнаўчае таварыства ўваходзіць у якасці нацыянальнага аддзела. Пад эгідай гэтай Міжнароднай асацыяцыі два гады назад быў скліканы І кангрэс беларусістаў свету, а зараз мы рыхтуемся да правядзення ІІ кангрэса, які адбудзецца сёлета ў Менску. Сардэчныя стасункі злучаюць мяне з дэканам філфака БДУ паэтам Алегам Лойкам; у цесным творчым кантакце працую з вядомымі беларускімі фалькларыстамі Анатолем Фядосікам і Васілём Ліцвінкам. Апошні ўзначальвае Беларускі саюз фалькларыстаў, сустаршынёй якога я з'яўляюся; даражу блізкімі адносінамі з галоўным рэдактарам Беларускай энцыклапедыі Барысам Сачанкам, маімі землякамі Уладзімірам Казберуком і Серафімам Андраюком.

**— А як ладзяцца Вашы кантакты з беларускай дыяспарай?**

— О, гэта вялікая тэма для гаворкі, бо і дыяспара вялікая... Першы раз паехаў у Англію ў 1979 г., а ўсяго ў Скарынінскім беларускім цэнтры ў Лондане працаваў шмат разоў. У Амерыку паехаў у 1981 г., калі беларускія эмігранты былі яшчэ для вас «ворагамі народа». Я ўжо тады ведаў Вітаўта і Зору Кіпеляў, Янку Запрудніка, Антона Адамовіча, Аляксандра Надсана, Антона Шукелайця, Кастуся Калошу, Сяргея Карніловіча, спадароў Русакоў і, вядома ж, біскупа Чэслава Сіповіча, які надрукаваў у часопісе «Божым шляхам» маю ананімную рэцэнзію на вядомае «Пісьмо рускаму другу», апублікаванае ў лонданскім цэнтры Скарыны. Ліст гэты, як пасля высветлілася аўтарства Аляксея Каўко, быў першым у пасляваеннай краёвай рэчаіснасці вострым пратэстам супраць русіфікацыі і асіміляцыі беларусаў.

**— Якой была Ваша роля ў наладжванні ўзаемаразумення паміж беларусамі-эмігрантамі і савецкімі беларусамі?**

— Я ўсяляк імкнуўся дапамагчы ім паразумецца. Першым казаў, што не ўсе ў вас бегаюць з творамі класікаў марксізму-ленінізму пад пахай. Ёсць і гарачыя патрыёты, якія працуюць дзеля будучыні свабоднай Бацькаўшчыны. Другім гаварыў, што нашы суайчыннікі ў замежжы нармальныя людзі, многія з іх таксама працуюць на шчасце Беларусі. Спадзяюся, што беларусы свету ў будучыні дойдуць да паяднання.

**Распытвала Ірына КРЭНЬ.**

# Візіт завершаны

***Афіцыйны візіт у Літоўскую Рэспубліку беларускай дэлегацыі на чале са Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Мечыславам Грыбам завяршыўся 7 красавіка. У гэты дзень беларускую дэлегацыю прыняў прэзідэнт Літоўскай Рэспублікі Альгірдас Бразаўскас і прэм'ер-міністр Адольфас Шляжавічус.***

А напярэдадні вечарам дэлегацыя Вярхоўнага Савета Беларусі сустрэлася з прадстаўнікамі беларускіх абшчын Літвы. Мечыслаў Грыб і члены дэлегацыі расказалі аб сітуацыі, якая складваецца ў Беларусі напярэдадні выбараў у Вярхоўны Савет, адказалі на пытанні суайчыннікаў, выслухалі іх просьбы і прапановы.

Беларусы Літвы, дарэчы, выказалі сваю заклапочанасць наконт беларускай мовы. Яны лічаць, што яе неабходна захаваць у рэспубліцы ў якасці адзінай дзяржаўнай мовы. Акрамя таго, яны абаранялі ідэю захавання існуючай у рэспубліцы дзяржаўнай сімволікі і папрасілі спікера парламента і іншых членаў дэлегацыі заняць больш дакладную пазіцыю адносна прапануемага рэферэндуму па гэтых пытаннях. У ходзе сустрэчы вельмі цёпла была прынята прамова старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча. У ёй ён закрануў праблемы ўмацавання беларускай нацыянальнай ідэі, згуртавання народа і развіцця яго духоўнай культуры, многія вытокі якой звязаны з Вільнюсам.

Пасля заканчэння візіту ў Літву Мечыслаў Грыб правёў прэс-канферэнцыю для літоўскіх і замежных журналістаў. Сваё знаходжанне ў суседняй дзяржаве ён ацаніў як карыснае і спрыяльнае для ўмацавання добрасуседскіх адносін. Галоўнымі пытаннямі, якія абмяркоўваліся на ўсіх сустрэчах, паводле яго слоў, былі пытанні развіцця эканамічных адносін, асваення транзітнага калідора "Усход—Захад" праз Літву. Мечыслаў Грыб, у прыватнасці, падкрэсліў, што партнёраў і сяброў трэба шукаць у першую чаргу не за морамі-акіянамі, а сярод суседзяў.

Мечыслаў Грыб аргументавана выказаўся супраць уступлення краін Балтыі, у тым ліку і Літвы, у НАТО.

**Альгімантас БРАЗАЙЦІС, Белінфарм.**

*Вільнюс.*



## *ЦІ БУДЗЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ВАЛЮТА?*

Старшыня праўлення Нацыянальнага банку Станіслаў Багданкевіч пацьвердзіў чуткі пра тое, што ў падвалах банку захоўваюцца надрукаваныя грошы, так званы новы беларускі рубель. Ён ня мае нічога агульнага зь цяперашнімі беларускімі разьліковымі білетамі, можа, толькі тое, што будзе мець хаджэньне на тэрыторыі рэспублікі. Праўда, гэта здарыцца не раней, чым праз год. Новы рубель зьявіцца ў кашальках грамадзянаў толькі пасьля таго, як эканоміка краіны паправіць сваё здароўе й выйдзе на ўзровень інфляцыі 7 працэнтаў у месяц.

**Паводле «Народнай газеты»**

## *25-га Сакавіка ў Чыкага*

Сьвяткаваньне 77-ай гадавіны 25-га Сакавіка, арганізаванае БАНРадай, адбылося пры парафіі Сьв. Юрыя ў Чыкага 2-га красавіка 1995 г.

На сьвяточнай урачыстасьці прысутнічала Ева Бетка, асістэнтка лейт. губэрнатара штату Іліноіс Б. Кустра. Яна пры гэтым зачытала для прысутных віншаваньні-Праклямацыі ад губэрнатара Джыма Эдгара і Б. Кустра. Рэфэрат на тэму дня прачытаў госьць з Беларусі Леанід Пранчак. Спадар Пранчак – вядомы журналіст і пісьменьнік, аўтар кніжкі "Беларуская Амэрыка". Прывітальныя лісты ад розных беларускіх арганізацыяў зачытаў сакратар БАНРады сп. М. Латушкін. Усёй сьвяточнай праграмай кіраваў сп. М. Каленік – старшыня Ўправы БАНРады ў Чыкага.

Вялікай неспадзеўкай для ўсіх было выступленьне групы дзяцей у народных уборах з прыгожаю праграмаю.

Сьвяточная акадэмія пачалася амэрыканскім дзяржаўным гімнам, а закончылася агульным адсьпяваньнем "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

Мікола Латушкін

Ад рэдакцыі:

У гэты самы дзень адбылося сьвяткаваньне 25-га Сакавіка і Беларускім Каардынацыйным Камітэтам Чыкага, палучанае з банкетам і мастацкай праграмай.

Як было-б добра, каб беларусы Чыкага пачалі нарэшце адзначаць розныя беларускія сьвяткаваньні разам. Ці-ж гэта так цяжка?!



STATE OF ILLINOIS
**OFFICE OF THE GOVERNOR**
CHICAGO 60601

JIM EDGAR
GOVERNOR

March 16, 1995

Mr. Michael Kalenik
Chairman Belarusan American
National Council
6226 West Peterson Avenue
Chicago, Illinois 60646

Dear Mr. Kalenik:

As Governor of the State of Illinois, it is my pleasure to welcome everyone gathered at the Saint George Belarusan Church for the celebration of the 77th Anniversary of Belarusan Independence.

I know this is a special time of rejoicing as you reflect on past accomplishments and future hopes for Belarus. You can all be truly proud of Belarusan's vital pluralistic democracy, setting the social welfare and security of its citizens among the highest priorities. Belarus continues to rebuild its strong tradition of social, cultural and industrial advances for the betterment of mankind. It is important that we pause to honor and observe the significance of March 25, 1918 as the Anniversary of Belarusan Independence.

On behalf of the citizens of Illinois, please accept my best wishes for an enjoyable celebration.

Best regards,

Jim Edgar
GOVERNOR

JE:pm



## Паведамленьне ад AT&T

AT&T гэтым паведамляе аб зьмене кодавых тэлефанічных нумароў у Арменію, Беларусь і Украіну.

Усе хто звоніць у Арменію, Беларусь і Ўкраіну сваім родзічам ці прыяцелям мусяць карыстацца новымі кодамі. Гэтыя коды ўвайшлі ў сілу для Ўкраіны і Беларусі ў нядзелю 16-га красавіка 1995 г., а зьмены для Арменіі ўваходзяць у сілу 1-га мая 1995 г. Зьмены гэтыя зроблены Міжнародным саюзам электрасувязі, арганізацыяй, якая назначае коды для ўсіх краін.

Новы код для Арменіі — 374, для Беларусі — 375, для Ўкраіны — 380.

Напрыклад, званіць у Менск цяпер трэба набіраць: 011 - 375 - 172 і мясцовы № тэлефону, або, скажам, у Баранавічы: 011 - 375 - 634 і мясцовы № тэлефону.

І так, званіць на Беларусь ад цяпер трэба: набіраць міжнародны код доступу, новы код краіны, код горада і мясцовы № тэлефону.

(011 - 375 - код горада і мясцовы № тэлефону)

# ТАК МАЛА НАМ ТРЭБА...

## Размова з грамадзянінам СВАЁЙ дзяржавы

"КУЛЬТУРА"

***Валеры Мазынскі, рэжысёр, грамадскі дзеяч, шмат гадоў упарта звяртаецца да нацыянальнай драматургіі, асэнсоўваючы беларускі народны характар, лёс народа на складаных пуцявінах гісторыі. І адзін з апошніх пастаўленых ім спектакляў "Барбара Радзівіл" прымушае задумацца, нягледзячы на скразную тэму любоўнай інтрыгі, найбольш над праблемай дзяржаўнага і асабістага, грамадзянскай пазіцыі і ўласных інтарэсаў. Вось чаму размова, якая задумвалася як маналог пра Радзівіла Чорнага, перарасла ў роздум пра сучасную палітыку і ідэю нацыі. Частку гэтай размовы я прапаную чытачам.***

**Ягор Фядзюшын:** У спектаклі "Барбара Радзівіл" паводле п'есы Раісы Баравіковай Радзівіл Чорны паўстае перад намі як дзяржаўны дзеяч. Чым адметная гэта асоба? Тым, што ён быў знакамітым арыстакратам, які час ад часу займаўся палітыкай, або тым, што з ранніх гадоў добра ўсведамляў прынцыпы дзяржаўнасці вакол сябе і сябе ў гэтай дзяржаве?

**Валеры Мазынскі:** На той час браты Радзівілы былі ўвогуле разумнымі, адукаванымі людзьмі. А Радзівіл Чорны?.. Маладым ён быў усялякім — жорсткім, цяжкім, шмат "наламаў дроваў" у сваім жыцці. Але галоўнае, мне здаецца, у тым, што ён пастаянна адчуваў унутраную патрэбу ў паляпшэнні дабрабыту свайго краю.

**Я.Ф.:** Яму ўлада была патрэбная, відаць, не столькі для таго, каб быць побач з каралём, колькі для таго, каб служыць Вялікаму княству Літоўскаму?

**В.М.:** Славалюбства, гонар неаддзялімыя ад жыцця... Ды і ўвогуле, стасункі асобы і ўлады цесна спалучаны ў любым грамадстве. Праўда, у розныя эпохі гэта бывае па-рознаму... Памятаю, як у першыя гады перабудовы (я тады жыў у Віцебску) са сваімі сынамі Васілём і Яўгенам начамі выраблялі бел-чырвона-белыя значкі. Клеілі іх з мыльніц, прыладжвалі іголкі, а назаўтра я аддаваў сынам гэтыя самаробныя значкі, каб яны вывешвалі іх у школе, на вуліцы і назіралі, якая будзе рэакцыя на іх. Я сам баяўся спачатку начапіць значок. І што б вы думалі — малы ў першы дзень так і прынёс гэтыя значкі назад: мой страх падсвядома перадаўся яму. Той страх, які ў нас, беларусаў — у генах. Як я вынішчаў у сабе раба! Памятаю, як упершыню ў Віцебску ўсё ж начапіў значок і пайшоў у тэатр. Іду па вуліцы і бачу, што ўсе глядзяць на мяне, і не на мяне, а на левы лацкан пінжака, і ўсё ўва мне палае, а ногі нібыта здранцвелыя... Памятаю, як ужо ў Купалаўскім тэатры Мікалай Дземянцей праходзіць па калідоры і торкае мне руку, кажа: "Здраствуйте". Чаму — мне? І я разумею: ён здароўкаецца не са мною, а са значком. Тады яшчэ з імі хадзілі рэдка. Я спужаўся, але трымаюся. І раптам адчуваю, што ён — таксама баіцца. Тады ўжо бел-чырвона-белы сцяг там-сям з'яўляўся, асабліва ў Купалаўскім тэатры. Уладныя чыноўнікі аб гэтым ведалі і, мабыць, абмяркоўвалі, што рабіць. Таму Дземянцей ужо не мог проста сказаць — "здымі значок!" і не мог прайсці міма і не павітацца.

**Я.Ф.:** І ўсё ж і сёння таксама складана. Усталяванне сапраўднай дзяржаўнасці ідзе неверагодна цяжка. Чаму так, на Вашу думку?

**В.М.:** Я абсалютна ўпэўнены, што гэтак будзе працягвацца, пакуль у нас не з'явіцца распрацаваная канцэпцыя дзяржаўна-нацыянальнай ідэі... Я не хачу гаварыць — нацыянальна-дзяржаўная, бо не дужа веру ў такую перастаноўку ў наш час...

**Я.Ф.:** Хаця ў гістарычным плане наш народ шмат выпакутаваў, але ж, відаць, яшчэ не прайшоў усе "кругі свае", бо нават выбары першага прэзідэнта не кансалідавалі грамадства.

**В.М.:** Вядома, так. Нам вельмі мала трэба. Мабыць, таму нас так цяжка падняць. Мы ж можам і на лебядзе пражыць. Здаецца, Бог мог бы сказаць: "Глядзіце, людзі. Вось ёсць такі народ — беларусы, якім так мала трэба, ведайце ўсе пра гэта". — І мы будзем шчаслівыя. Нам жа толькі павага, мусіць, і патрэбная.

**Я.Ф.:** Так, мы шчаслівыя ад дробязі. Вось старшыня Вярхоўнага Савета Мечыслаў Грыб загаварыў па-беларуску, і яго народ адразу стаў успрымаць па-іншаму. А глядзіце, як рэзка ўпаў рэйтынг прэзідэнта. Адна з прычын — канешне ж, у тым, што ён не падтрымлівае родную мову...

**В.М.:** Кіраваць дзяржавай павінны самыя разумныя людзі, інтэлектуалы. Калі ж "наверсе" не будзе ідэі, то хто ж перадасць яе ўніз? Смешна сказаць, але аднойчы на прагрaмцы спектакля мы напісалі, што нам дапамагла фірма "Дайнова", і дадалі: "беларускае — значыць лепшае". Прадстаўнік фірмы ўспрыняў гэта з недаверам і засароміўся. А я кажу: "Ты думаеш, дужа вялікі закід наперад? Адлавадаць трэба яму". Гэта не значыць, вядома, што ў нас лепшае ўсё. Але ж павінна быць!

**Я.Ф.:** Гэта як раней: савецкае — значыць выдатнае?

**В.М.:** Дарэчы, нармальны лозунг. Чаму не павінна, напрыклад, наша гарэлка быць лепшай? Яна ёсць. Зерне наша беларускае павінна быць лепшым...

**Я.Ф.:** Нашы спектаклі, мастакі, дзяўчаты...

**В.М.:** Так, і спектаклі, і мастакі, і дзяўчаты, і шмат іншага... Каб гэтым можна было ганарыцца: нацыю. Гонару і годнасці — вось чаго нам не хапае. Этыкеткі. Цэтліка, які таксама даваў бы ўстаноўку на дзяржаўнасць. У нас ёсць рукі залатыя, мазгі ёсць, у нас людзі, якія да працы здатныя. Ім бы яшчэ ідэю сваёй вартасці, сваёй нацыянальнай важкасці. Вядома ж — і заробак. Але ж калісьці нашы людзі працавалі за палачку. Ідэя гэта — эканоміка. Інстытут Гётэ, напрыклад, які супрацоўнічае з намі і больш чым з сотняю іншых краін, мае ідэю прапаганды нямецкай мовы ў замежных краінах, а з ёю — культуры, ідэалогіі. А за імі — нямецкія тавары, нямецкія тэхналогіі і г.д. І гэта нармальна. Нам, можа, не трэба, каб на беларускай мове загаварыў увесь свет. Але хай у тым накірунку ідзе і наша дзяржава. А чаму б і не? Нічога дрэннага не будзе, калі ўвесь свет загаворыць па-беларуску. Калі мы дасягнем гэтага не сілай, а нашым агульным розумам, інтэлектам, нашымі здзяйсненнямі. Хай нават дзеля павагі да мяне, прадстаўніка Рэспублікі Беларусь, у іншай краіне пры сустрэчы скажуць колькі слоў на маёй роднай мове — я буду шчаслівы. Бо гэта прыхільнасць да мяне. Ну, а прэзідэнт — гэта самая вяршыня, і яму нельга памыляцца. Нават у дробязях. Бо з яго боку — дробязь, а для нас гэта — магутная ўстаноўка.

**Я.Ф.:** Асабліва для чыноўнікаў, якія глядзяць у рот кіраўніцтву. Я даволі часта чую, як пасля афіцыйных прамоў пэўных высокіх чыноў выкладчыкі многіх вышэйшых устаноў, ды і звычайных школ з задавальненнем пачалі зноў весці свае лекцыі на расейскай мове, хаця "Закон аб мовах" ніхто не адмяняў.

**В.М.:** Ланцуговая рэакцыя... Але вось у чым справа. Прэзідэнту, асобе, якая прадстаўляе дзяржаву таксама і на вышэйшых узроўнях у шматлікіх краінах свету, трэба вучыцца нават правілам этыкету. "Неяк будзе", як часам кажуць беларусы, тут не да месца. "Неяк" прэзідэнту нельга. Прыязджаў, напрыклад, Козыраў, міністр замежных спраў Расеі. Сустракаўся з намі. Слухаючы яго, адчуваеш, што гэта чалавек СВАЁЙ дзяржавы, ён робіць СВАЮ палітыку. Нам можа не падабацца, што ён робіць, але ж яго паважаеш таму, што ён напрацоўвае на СВАЮ дзяржаву. На яго глядзіш як на АСОБУ. Колькі ён нападкаў вытрымлівае. Не менш, чым Лукашэнка. Але ён вядзе сваю палітыку і не вымушае на скандал з ім. Ён прымушае разважаць. Для простага чалавека, для мяне, кіраўнік павінен быць сапраўды сцяной, які ў самай складанай сітуацыі не разгубіцца. Нават калі не ведае, што рабіць праз тры хвіліны, ён павінен зрабіць выгляд, што ён усё ведае. Ён павінен!

**Я.Ф.:** Тая ж гісторыя з Ведзьмаком Лысагорскім...

**В.М.:** Я б на месцы прэзідэнта ўзяў ды яшчэ і сам прачытаў бы гэтага Луку па тэлебачанні, ды сказаў бы: "Нічога, можна было і больш жорстка, а вось рыфмы, мне здаецца, малавата". І ён бы зняў усе пытанні. А што атрымалася?

**Я.Ф.:** А каго з сённяшніх дзеячаў ты змог бы вылучыць у палітыцы?

**В.М.:** На сённяшні дзень у нас павінны быць тыя палітыкі, якія прынясуць народу дзяржаўна-нацыянальную ідэю. Толькі тады праявіцца нармальная незалежнасць, годнае сяброўства, а не пацалункі і не пародыя на брацтва. Мы ўжо зразумелі, што наш народ не супраць незалежнасці. Ужо нацяжкала хадзіць з працягнутай рукой і спадзяваннем, што нехта нам нешта дасць. Трэба спадзявацца на свае розумы, на навукоўцаў, на сваю зямлю, яе межы і багацці, нават на паветра, праз якое лятаюць... Хто ж канкрэтна мне з палітыкаў імпануе? Я прыхільнік БНФ, але не буду называць чалавека, які мне бліжэй за ўсіх. Я не супраць партыі згоды, не супраць таго ж Карпенкі. Мне вельмі сімпатычны Заблоцкі, таму што і разумны, і эканаміст, і памяркоўны чалавек. Я адчуваю, што ён — Асоба. У мяне добрыя ўражанні ад Мечыслава Грыба. Ён жыве разам з часам. Я веру, што ён думае пра Беларусь і робіць для яе.

**Я.Ф.:** А хіба прэзідэнт Лукашэнка не думае пра Беларусь? Мне, напрыклад, здаецца, што ён хоча рухацца наперад, але ж не ведае пакуль, дзе гэта. Таму і мітусня?

**В.М.:** Як у футболе: нявопытны футбаліст бачыць мяч, але не заўважае поля. Ці наадварот, зірне на поле — мячык згубіць. А мячык трэба весці, не ўтаропіўшыся ў яго, а бачыць усё поле. Трэба быць ПРАФЕСІЯНАЛАМ. А для прафесіі, калі яна вымагае розуму і таленту, адсутнасць прафесіяналізму недаравальная... Ды і сам народ таксама павінен вучыцца на сваіх памылках. Думаць трэба! Цяпер не той час, калі за ўсіх нас сядзелі і вырашалі нашы "палітбюроўцы". З памылак трэба набірацца вопыту. І трываць. Іншага шляху няма. А мы ўсе хочам, каб зараз, пры нашым жыцці, была Беларусь сапраўды незалежнай, каб усе ведалі мову і г.д. Гэтага таксама адразу не будзе, бо столькі часу мы ішлі да гэтага, цяжка ішлі... Ідзем і зараз...

---

*БЕЛАРУСКАЯ АРМІЯ* "Голас Радзімы"

## У БУНДЭСВЕР НА ВУЧОБУ

**У ваеннае ведамства Беларусі паступіла запрашэнне з ФРГ на вучобу ў 1995--1996 гадах у ВНУ Генеральнага штаба Бундэсвера 11 чалавек па 11 спецыяльнасцях: электронная тэхніка, ваенная тапаграфія, камандзіры артылерыйскіх і пяхотных падраздзяленняў і г.д.**

**У Міністэрстве абароны ўжо ідзе праца па падбору кандыдатаў.**

---

## Скаўцкі сойм

25 лютага гэтага года ў Менску адбыўся другі Сойм Аб'яднання Беларускіх Скаўтаў. Акрамя самога АБС, яго правядзенню паспрыялі дабрачынны фонд «Мы — дзецям», Рэспубліканскі палац дзяцей і моладзі ды Рэспубліканская станцыя юных турыстаў. 51 дэлегату — удзельнікам руху беларускіх скаўтаў — былі прадстаўлены ўсе 12 харугваў рэспублікі, што ўваходзяць у склад АБС.

На Сойме былі падсумаваныя вынікі дзейнасці Аб'яднання на працягу трох гадоў існавання гэтай арганізацыі. Акрамя таго, былі ўнесеныя змены ў Статус АБС, якія ўзгадняці яго з дзеючым заканадаўствам краю. Былі таксама праведзены выбары кіраўніцтва арганізацыі.

Паводле новага Статута, кіраўніцтва Аб'яднаннем Беларускіў Скаўтаў цяпер здзяйсняе Рада, якая кіруе ў час паміж Соймамі, ды Канцылярыя, якая з'яўляецца выканаўча-распарадчым органам.

У склад Рады, якой, паводле новага Статута, нададзены вялікія паўнамоцтвы, увайшлі 9 асоб: трое прадстаўнікоў скаўцкіх арганізацый Менска і па аднаму ад кожнай вобласці. Старшынёй Рады абраная сп-ня Вольга Кліманові ч. На пасаду канцлера абраны сп.Вадзім Сугойдзь, скаўт-падскарбіямі сталі сп.сп. Алесь Лозка і Алесь Чарняўскі.

Соймам вырашана, што з гэтага часу канцылярыя АБС будзе знаходзіцца ў Менску, па адрасу: вул.Някрасава, 5-а. На гэты адрас можа звярнуцца кожны, хто цікавіцца рухам беларускіх скаўтаў і жадае да яго далучыцца.

---

**"...Я ніколі не зміруся, калі мая Беларусь стане часткай любое іншае дзяржавы, страціць незалежнасць і свабоду. Я цярплю і буду цярпець колькі трэба і якія заўгодна нястачы, працаваць без сну і адпачынку, але толькі тады, калі буду ўпэўнены ў шчаслівай будучыні свае Радзімы — Беларусі, а значыць, і маіх нашчадкаў. У супрацьлеглым выпадку вы, пан прэзідэнт, можаце падпісваць дагаворы, праводзіць рэферэндумы, парушаць Канстытуцыю, рабіць усё, што прывядзе да знікнення Беларусі (спачатку як дзяржавы, а потым як нацыі), мне застаецца толькі адно — змагацца. Я ёсць, і Вам, у выпадку такіх дзеянняў, давядзецца перастуліць не толькі праз горкі плач нашай інтэлігенцыі і адчайныя крыкі апазіцыі. Вам давядзецца пераступіць і праз маю кроў. Праз кроў сотняў тысяч, мільёнаў такіх, як я. Як растлумачыць Вам, пан прэзідэнт, што ідучы на повадзе тых, хто жыве з імперскімі замашкамі, хто спіць і бачыць далучэнне Беларусі да Расіі, можна лёгка штурхануць усіх нас у прорву грамадзянскай вайны?"**

***(З артыкула Здзіслава Вальпяровіча "Я цярплю і буду цярпець...", "Народная газета", 10 сакавіка г. г.).***

---

## Беларусь судзіцца з Казахстанам

Як паведамляе прэса, Казахстан павінен выплаціць Беларусі тры мільёны далараў і 800 тон зярна. Такі вывад зрабіла Калегія эканамічнага суду СНГ.

Казахстан не выканаў забавязаньня па міждзяржаўнай дамоўленасьці з 4-га жніўня 1993 г. Паводле гэтай дамоўленасьці Беларусь пераслала Казахстану 1,737 грузавых аўтамашын з шафёрамі і 1,865 механізатараў для працы на камбайнах. Казахстан мусіў поўнасьцю пакрыць расходы перавозу тэхнікі і людзей. Казахстан, аднак, гэтага ня выканаў.

Цікава, як аднясецца Казахстан да судовага прыгавору, але бяручы пад увагу поўнае праўнае бязладзьдзе ў дзяржаве, спадзяваньняў на дадатні вынік вельмі мала.

А для Беларусі гэта добрая навучка... хоць "какая разница, все мы советские люди"...

---

## Добрае сэрца Марыі Дзямковіч

"Народная газета"

У цяжкія гады ваеннага ліхалецця лёс закінуў маленькую дзяўчынку Марыльку з вёскі Моталь у далёкую Амерыку. Доўгія гады яна была пазбаўлена магчымасці бачыць сваю радзіму. І, напэўна, часта ёй сніліся сцяжынкі дзяцінства, чуліся мілагучныя мотальскія песні.

Ішлі гады, расла і сталела дзяўчынка: сёння гэта паважаная і ў Амерыцы доктар Марыя Барысаўна Дзямковіч. Дзякуючы таленту, прыроднай працавітасці гэтая жанчына змагла пераадолець усе хібы лёсу і не згубіла чалавечай шчырасці, дабразычлівасці, вялікай дабрыні, якая ёсць у сэрцы кожнага беларуса, дзе б ён ні жыў.

Менавіта яе сэрца не давала спакою, калі пачула Марыя Барысаўна пра трагедыю, якая напаткала родную Беларусь. Яна прыкладае ўсе намаганні, каб дапамагчы нам, зямлякам. Абыякавасць да людзей — гэта не ў яе характары. Яна стала актыўнай удзельніцай падрыхтоўкі праграмы па дапамозе ахвярам Чарнобыля. Гэтая праграма будзе працаваць да 1996 года. Амерыканскі ўрад для яе правядзення выдзеліў 260 тысяч долараў. Дзякуючы яе намаганням удалося арганізаваць прыезд у Мінск амерыканскіх медыкаў, і многія хворыя змаглі атрымаць бясплатныя кваліфікаваныя парады і дапамогу.

Прыезд Марыі Барысаўны Дзямковіч на радзіму стаў адметнай падзеяй для ўсяго нашага Іванаўскага раёна. Людзі здзіўляліся дабрыні і чуласці жанчыны, якая стаoалася дапамагчы ўсім, з кім сустрэлася — каму акуляры, каму медыкаменты, каму проста слова спагады. Яе словы аб тым, што "трэба вучыцца быць шчаслівымі, не губляць надзею на лепшы час", надоўга запалі нам у душы. Яна заверыла, што прыкладзе ўсе намаганні са свайго боку дзеля таго, каб заклікаць грамадскасць Амерыкі дапамагчы беларускім людзям перамагчы чорную навалу чарнобыльскай бяды.

Нам хочацца выказаць Марыі Барысаўне Дзямковіч шчырыя словы падзякі за клопат і спагаду. Дай Бог ёй здароўя, доўгіх гадоў жыцця, шчасця!

Нашы гарачыя словы падзякі таксама народу і ўраду Амерыкі, якія далі прытулак маленькай беларускай дзяўчынцы і выхавалі цудоўнага чалавека. Мы жывём на адной планеце, і як добра, калі людзі разумеюць праблемы тых, каму зараз цяжка, жывуць за тысячы кіламетраў.

Мы верым, з дапамогай такіх людзей, як Марыя Дзямковіч, мы прагонім са сваёй зямлі чарнобыльскую навалу, зажывём шчасліва і багата.

З павагай

**Ганна Рыгораўна КУЛЬБЕДА, Вольга Міхайлаўна ГАЎРУЧОНАК, Надзея Паўлаўна МІНЮК, Лідзія Рыгораўна КУЛЬБЕДА, Марыя Іванаўна ФЕДАРУК, Галіна Паўлаўна ДЗЯДЗЮК і многія іншыя жыхары Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці.**

# Президент Белоруссии идет на крайние меры...

## Силовая акция против депутатов

Александр СТАРИКЕВИЧ, «Известия»

Мрачные прогнозы относительно установления в Белоруссии режима личной диктатуры Александра Лукашенко начинают сбываться. 12 апреля около трех часов ночи президентская служба охраны при поддержке других военизированных формирований предприняла штурм зала заседаний Верховного совета Белоруссии.

### Хроника событий

**10 апреля.** Белорусский парламент, рассматривая инициативу Александра Лукашенко о проведении референдума по четырем вопросам, принимает постановление, которым определяет дату плебисцита — 14 мая, одновременно с первым туром парламентских выборов. Какие из предложенных президентом вопросов будут вынесены на всенародное обсуждение, должно решиться на следующий день.

**11 апреля.** На утреннем заседании Верховного совета президент продолжает настаивать на проведении референдума. Оппозиция объявляет голодовку: около 15 человек выходят к парламентской трибуне и рассаживаются у президиума сессии. Верховный совет отклоняет три из четырех вопросов референдума, предложенных президентом, из-за законодательных несоответствий. Александр Лукашенко заявляет: «Вы из этого ничего не высосете, карпенки и позняки» (Геннадий Карпенко — председатель партии Народного согласия, Зенон Позняк — председатель белорусского Народного фронта). Он заявляет, что своими указами приостановит деятельность парламента и назначит референдум. «Разве вы Верховный совет?» — буквально кричит Лукашенко. Тем временем становится известно, что президенту передан список из 96 депутатов, которые заявляют о своей лояльности к нему и просят трудоустроить их в исполнительной вертикали власти. Если это произойдет, Верховный совет нынешнего созыва лишится кворума и не сможет продолжать работу.

Председатель Верховного совета Мечеслав Гриб предлагает прервать рассмотрение вопроса о референдуме до следующего утра, чтобы провести необходимые юридические консультации. Парламент соглашается.

**18.00** Очередной день работы сессии парламента завершен. Оппозиция продолжает голодовку и не покидает зал заседаний. Коллеги приносят протестующим минеральную воду и матрасы.

**20.11.** Перешедший на службу к президенту депутат Верховного совета Михаил Тесовец сообщает голодающим, что поступило сообщение о бомбе, якобы заложенной в Доме правительства. Депутатам предложено покинуть помещение. Они отказываются.

**22.05.** Белорусское телевидение начинает репортаж о ходе сессии парламента. Тенденциозность телекомпании, подчиненной непосредственно президенту, очевидна. Обращает внимание, что комментатор неоднократно подчеркивает: президент стремился разрешить ситуацию мирными способами, но исчерпал имеющиеся возможности.

**23.00.** Начальник управления государственной охраны Михаил Тесовец возвращается с начальником президентской охраны Вячеславом Королевым. Они заявляют, что разговаривали по телефону с Мечеславом Грибом, и тот дал указание освободить помещение. Однако, связавшись со спикером, оппозиционеры узнают, что такого разговора не было. Тогда Тесовец и Королев говорят, что на этот счет распорядился сам президент, не желающий, чтобы кто-то из депутатов пострадал. Начальник президентской охраны ведет себя вызывающе. «Мы с вами разберемся после 15 мая»,— заявляет он депутатам. Тесовца и Королева сопровождают около 60 человек. Примерно десять — сотрудники охраны президента. Остальные — милиционеры и саперы. Предпринимается первая, пока еще несмелая попытка применить силу к депутатам, завершившаяся небольшой потасовкой.

**12 апреля. 0.41.** Саперы завершают осмотр и уходят, подписав протокол, что взрывное устройство не найдено. Депутаты обнаруживают, что других сотрудников Дома правительства никто даже не пытался эвакуировать. Более того, у подъезда стоит «Мерседес» Александра Лукашенко, что указывает на нахождение в здании его хозяина.

**2.50.** Депутат Валентин Голубев, услышав за дверями зала заседаний передвижение людей и бряцание оружием, выглядывает в коридор. Там все заполнено военными, вооруженными автоматами и пулеметами. Голубев поднимает тревогу. Спустя несколько минут одновременно открываются все двери и в зал врываются вооруженные люди в количестве около 200 человек (депутатов в тот момент было 19): одни — в черной форме и масках, другие — в камуфляже и с автоматами. Они начинают избивать депутатов и вытаскивать их из зала. Один из нападающих в прыжке бьет ногами Зенона Позняка. Достается и остальным: одну из захлопнувшихся дверей открывают головой координатора парламентской оппозиции Сергея Наумчика. Спустя десять минут операция завершена. Парламентариев развозят в разные районы Минска.

**5.30.** Депутаты проходят освидетельствование в лечкомиссии, которая фиксирует нанесение им телесных повреждений. У многих побиты лица, на теле огромные синяки, у многих парламентариев одежда в крови. Врачи отказываются беседовать с корреспондентом «Известий»: «Поймите нас правильно. Мы выполнили свой долг, неизвестно еще, чем для нас это закончится».

Когда полторы недели назад «Известия», публикуя материал о референдуме, констатировали, что эта инициатива белорусского президента усиливает напряженность в обществе, никто все же не думал о таком развитии событий. Но Александр Лукашенко жребий бросил, и отступать ему теперь некуда. Чего-чего, а решимости ему не занимать. Как сообщил хорошо информированный источник «Известий» «в Совете безопасности, рассматривался вариант с применением против депутатов газа типа «Черемуха», чтобы очистить помещение.

Скорее всего, никто не окажется в силах помешать реализации любых планов Александра Лукашенко. А планы Лукашенко не ограничиваются пределами Белоруссии. 11 апреля на заседании Верховного совета он заявил буквально следующее: «Сейчас на Белоруссию все смотрят, как на центр славянской цивилизации, и мы должны выступить в роли ее спасителя».

Казалось, что раскачать белорусскую лодку не сможет никто: мир и стабильность всегда останутся характерными чертами этой земли. Но за девять месяцев, минувших со дня избрания Александра Лукашенко президентом, сделано многое, чтобы поставить под сомнение это утверждение. К сожалению, все идет к тому, что скоро на карте СНГ появится еще одна «горячая точка». И тогда совсем неважно будет, кого больше: сторонников президента или противников, тех, кто говорит на белорусском языке или на русском, приверженцев нынешней символики или людей, ее не приемлющих. Для Белоруссии наступают тяжелые времена.

**9.00—10.30.** В Дом правительства, где должна проходить сессия Верховного совета, никого не пускают. Милицейское оцепление сообщает, что до 12.00 саперы будут искать взрывное устройство. Тем не менее в правое крыло Дома правительства спокойно проходят сотрудники президентской администрации и правительства. Очевидно, бомба очень уж направленного действия и способна уничтожить только депутатов. Попытки прессы получить любые комментарии происшедшего от исполнительной власти успеха не имеют: начальник Управления общественно-политической информации администрации президента Владимир Заметалин бросает трубку.

Драматические события разворачиваются и на центральной площади столицы. ОМОН избивает людей с государственными флагами. К месту событий подтягиваются дополнительные милицейские силы. Попытка депутатов Верховного совета провести пресс-конференцию в Минском горсовете также пресечена блюстителями правопорядка.

Ожидается, что пресс-конференция все-таки состоится. На вопрос журналистов, как он расценивает происходящее, проходящий мимо генеральный прокурор Василий Шолодонов ответил: «Плохо».

**10.30** На заседании президиума Верховного совета Мечеслав Гриб заявил, что никогда еще Белоруссия не была так близка к гражданской войне. Другой член президиума, Борис Савицкий, сказал, что Верховный совет должен или отправить в отставку президента, совершившего преступление, или уйти сам. Генеральный прокурор Василий Шолодонов сообщил, что сегодня утром коллегия Прокуратуры Белоруссии возбудила по фактам ночного происшествия уголовное дело.

МИНСК. «Известия»

---

*"Свабода"*

# Жанчына, якой баіцца прэзыдэнт

**Многіх зьдзіўляе, што "Народная газета" працягвае выходзіць. Людзі пытаюцца: няўжо журналісты ў знак пратэсту ня могуць учыніць страйк? Напэўна ж, могуць, але, відаць, ня хочуць.**

У свой час Іосіф Сярэдзіч бласлявіў двух сваіх найбліжэйшых паплечнікаў, якім рэжым запрапанаваў заняць кіраўнічыя крэслы ў рэдакцыі "Советской Белоруссии", адкуль амаль у наручніках улады вывелі галоўнага рэдактара. Цяпер Сярэдзіч атрымаў плату той самай манэтай — адзін з паплечнікаў згадзіўся заняць ягоны кабінэт. А вы кажаце страйк...

"Письмо президенту", надрукаванае ў "НГ", было, безумоўна, толькі зачэпкаю. Лукашэнка назваў гэты ліст "фальшивкой, которую сделали за доллары". Між тым, прэзыдэнт пры жаданьні мог бы сам сустрэцца і асабіста пагаварыць з аўтарам ліста. Цяпер, аднак, аўтар знаходзіцца далёка.

Рэдакцыя СВАБОДЫ правяла сваё расьсьледаваньне. Мы высьветлілі, што ліст у рэдакцыю "НГ" пад псэўдонімам (Зьдзіслаў Вальняровіч) напісала і даслала Рэгіна Зімніцкая, кандыдат пэдагагічных навук, 28 год. Яна нарадзілася ў в. Паляжын Зэльвенскага раёну. Скончыла ў Менску інстытут фізкультуры. Цяпер працуе выкладчыкам у Плешчаніцкай філіі менскай вучэльні алімпійскага рэзэрву. Пасьля прэзыдэнцкага ўказу сваякі забаяліся, што і яна, як аўтар ліста, можа пацярпець ад уладаў. Таму яе выправілі да аднаго з братоў, які жыве ў Расеі. Мы гаварылі з ім па тэлефоне. Сястру ён адмовіўся паклікаць, заявіўшы, што "вашае дурацкае беларускае кіраўніцтва можа пасадзіць чалавека за краты толькі за ліст у газэту", таму, маўляў, "ніякага інтэрвію Рэгіна даваць ня будзе".

**Пятро ПАНКРАТОВІЧ**
**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

---

## ПАСЯДЖЭННЕ КАМІТЭТА

На чарговым пасяджэнні Міжнароднага камітэта беларусістаў, якое адбылося 14 лютага, былі абмеркаваны ўдакладненні ў статуце, абумоўленыя новым Законам Рэспублікі Беларусь "Аб грамадскіх аб'яднаннях". Асноўная дыскусія разгарэлася вакол сяброўства (членства): калектыўнае ці індывідуальнае? Але паколькі не ва ўсіх краінах існуюць нацыянальныя асацыяцыі беларусістаў, паколькі некаторыя навукоўцы жадаюць заставацца "самі па сабе", побач з калектыўным сяброўствам было вырашана пакінуць і індывідуальнае.

Удзельнікі пасяджэння абмеркавалі таксама парадак работы II Міжнароднага кангрэсу беларусістаў, які адбудзецца ў Мінску 16--18 мая 1995 года. Асноўны накірунак яго дзейнасці акрэслены назвай "Беларусь паміж Усходам і Захадам: праблемы міжнацыянальнага, міжканфесійнага і міжкультурнага ўзаемадзеяння, дыялогу і сінтэзу". Побач з пленарнымі і секцыйнымі пасяджэннямі было вырашана 18 мая правесці "круглыя сталы", прысвечаныя беларуска-рускаму, беларуска-польскаму, беларуска-ўкраінскаму, беларуска-літоўскаму і беларуска-латышскаму культурнаму ўзаемадзеянню, а таксама беларускаму перыяду жыцця і творчасці славутага італьянскага архітэктара Джавані Бернардоні і перамяшчэнню беларускіх матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей у час другой сусветнай вайны і пасля яе (сюды ж дадаюцца каштоўнасці, што перамяшчаліся праз Беларусь з іншых краін). Адбудуцца таксама справаздача і выбары камітэта МАБ.

"Голас Радзімы" **Алеся БЕЛАВУСАВА.**

---

# Ордэн Маці ў Беларусі ёсць. Без узнагароды застаўся бацька

"Народная газета"

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

Вулкан пад назвай "парламент" хоць і пасыпаны попелам, але не ўтаймаваўся. Раз за разам з яго нетраў вырываюцца слупы агню, скіраваныя ўсё ў тым жа напрамку. "Толькі ў тых краінах, дзе рыхтуецца дыктатура, знішчаюць парламенцкую ўладу", "Прэзідэнту не патрэбен ні гэты Вярхоўны Савет, ні наступны", "Уся ўлада цалкам пераходзіць да "вертыкальшчыкаў". Так гаварылі дэпутаты Мікалай Крыжаноўскі, Віктар Аламліеў, Лявонцій Зданевіч.

Старшыня Цэнтрвыбаркама Аляксандр Абрамовіч, па прапанове Генадзя Карпенкі, даў неабходную інфармацыю аб ходзе перадвыбарнай кампаніі і сказаў, што выдаткаваныя 68 мільярдаў рублёў на рахунак Цэнтрвыбаркама так і не прыйшлі, а іх трэба яшчэ і праіндэксаваць з улікам інфляцыі. Ён пазнаёміў дэпутатаў і з такой трывожнай навіной: члены некаторых акруговых камісій з-за адсутнасці сродкаў збіраюцца абвясціць аб самароспуску. У выніку падчас дыскусіі прагучаў нават такі вывад: калі выбары не хоча фінансаваць дзяржава, іх прафінансуюць крымінальныя структуры і мы атрымаем ужо цалкам крымінальнае грамадства.

Станіслаў Шушкевіч спасылаўся на Прэзідэнта, які казаў, што грошы на выбары ён знайшоў. І задаваўся рытарычным пытаннем: "Не дзяржава, не падаткаплацельшчыкі, а менавіта ён?" У выніку паартыкульнага галасавання законапраекта аб выбарах прайшла толькі тая частка, якая пазбаўляе зарплаты давераных асоб кандыдатаў у дэпутаты.

Пасля першага перапынку дэпутаты паспрабавалі паставіць кропку пад законапраектам аб дзяржаўных узнагародах. Зацвердзілі званне "Герой Беларусі", зацвердзілі ордэн Кастуся Каліноўскага, замест медаля "Адраджэнне" прынялі медаль Францыска Скарыны, зацвердзілі для жанчын, якія нарадзілі і выхавалі альбо ўсынавілі і выхавалі пяць і больш дзяцей, ордэн Маці. А вось з ганаровымі званнямі "народны" і "заслужаны" раптам атрымалася затрымка. Падчас дыскусіі аб тым, хто і за што варты гонару быць заслужаным альбо народным, слова ўзяў Уладзімір Станкевіч і прапанаваў увогуле адмовіцца ад гэтай "спадчыны". Яго падтрымаў Уладзімір Заблоцкі, нагадаўшы былыя прапановы Ніла Гілевіча. Артыкул большасці галасоў не атрымаў, але і зусім зняты не быў, а адправіўся на дапрацоўку.

Да справы галоўнага рэдактара "НГ" Іосіфа Сярэдзіча да абедзеннага перапынку дэпутаты так і не вярнуліся. Паводле слоў Мечыслава Грыба, новы праект пастановы да яго не пступаў. Як толькі ён з'явіцца, старшыня гатовы паставіць пытанне на абмеркаванне.

## *Нам пішуць... Нас пытаюць...*

Паважаны Сп. Прускі!

У Англіі выходзіць польскі штодзённік п. н. "Дзеньнік Польскі".

У гэтай газэце я пачаў палеміку маім лістом у рэдакцыю пад назвай "Dziwne Rozumowanie" (Дзіўнае разумаваньне). Потым "пасыпаліся" іншыя лісты... Думаю, што мой ліст і палеміка будуць для Вас цікавымі. Калі захочаце, можаце мой ліст перадрукаваць у Вашым "Беларускім Дайджэсьце"...

"Беларускі Дайджэст" я чытаю, - цікавы і карысны!

З пашанай М. Ш.

*Дзякуем за ліст і выразкі з газэты.. Старайцеся прысылаць не копіі а арыгіналы. Для нашай тэхнічнай базы гэта вельмі важна. Старайцеся, калі ласка, дапамагаць нашай газэце ў яе разбудове... А так, жадаем Вам усяго найлепшага!*

## *Dziwne rozumowanie*

*Szanowna Pani Redaktor,*

*Rada Naczelna Federacji Organizacji Kresowych w Polsce wyraża zaniepokojenie (Dz. P. 29.11.94) kandydaturą Tomasza Leoniuka, obywatela polskiego narodowości ukraińskiej, na stanowisko konsula RP we Lwowie. Dziwi mnie takie stanowisko Federacji, kwestionujące lojalność pana Leoniuka tylko dlatego, że jest on narodowości ukraińskiej.*

*W tym samym numerze Dziennika, na ostatniej stronie pt. "Nowi kardynałowie" jest wzmianka, że wśród nowo kreowanych księży Kościoła znajduje się Polak ks. Kazimierz Swiątek, acybiskub Mińska na Białorusi. Kierując się logiką Federacji, Białorusini powinni też protestować przeciw kreowaniu Polaka na kardynała dla Bialorusi. Białorusini powinni domagać się, aby kardynałem byla osoba nie tylko kompetentna, ale ponad wszelką watpliwość białoruszczyźnie życzliwa, znająca język białoruski i jednakowo dbająca o wszystkich katolików, bez względu na narodowość.*

*Z poważaniem*

*M. Szwedziuk*

*Rugby*

Здароў рэдактар Мікола!

..."Дайджэст" твой зусім быў-бы ў парадку, калі-б ня тое, што часам паўстае сумніў, ці гэта сапраўды "Беларускі Дайджэст", а не "Беларуска-Англійска-Польска-Расейскі"? Трэба, браце, высьцерагацца іншамоўных перадрукаў як агня!

Паза гэтай невялікай заўвагай, ня маю нічога да закіду — газэта выдатна выконвае свае функцыі, падбор матэрыялаў беззаганны, прынцыпы, якімі рэдакцыя кіруецца бясьпрэчна правільныя. Такі часапіс нам вельмі патрэбны...

Памажы Божа! П. М.

*Дзякуем за ахвяру і ліст. Што да рознамоўя газэты, дык тут думкі розных людзей відавочна разыходзяцца. Мы стараемся даносіць нашым чытачом матэрыял у розных мовах для іх-жа лепшае арыентацыі, што дзеецца ў нас і каля нас...*

Паважаны Сп. Прускі!

Пасылаю ахвяру на выдавецтва...

З Беларусі прыходзяць жахлівыя навіны — поўным ходам ідзе расейска-бальшавіцкі наступ на кволую беларускую незалежнасьць... Патрэба амэрыканскіх назіральнікаў на парлямэнтарных выбарах проста неабходная...

З прывітаньнем, Р. З.

*Сапраўды, сумныя справы...*

Вельмі Паважаны Сп. Прускі!

Шчыра Вам дзякую за ўсе прысланыя газэты... Газэта цікавая, мае добрыя і моцныя артыкулы з Бацькаўшчыны. Дай Вам Божа здароўя, каб і на далей была моц і сіла ў Вашай плённай працы... Залучаю ахвяру...

З глыбокай пашанай, О. Г.

*Дзякуем за моцныя і падбадзёрваючыя словы, таксама за ахвяру. Хоць і вельмі цяжка, але выдаваць газэту будзем...*

Беларускі Дайджэст!

Мне помніцца расейская песьня — "Замело тебя снегом Россия"... Пад сьнегам падразумевалася бальшавіцкая эпоха... але калі канчыцца зіма — сьнег згіне.

Наша Беларусь была таксама засыпана сьнегам, а калі сьнег растаў, дык пад ім аказаўся лёд. Як вядома, сьнег растае хутка, а лёд даўжэй.

Расейцы, якія выступаюць супраць незалежнасьці і асабліва супраць беларускай мовы, кажуць: "какая разница"... Сапраўды для расейцаў няма розьніцы, бо расеец на Беларусі вывучае расейскую мову, родную і блізкую... і беларус вывучае расейскую мову, а таму для расейцаў няма розьніцы.

Але розьніца ёсьць вельмі вялікая, бо расеец вывучае родную мову, а беларус вывучае чужую расейскую мову ды яшчэ пад прымусам... Вось у чым заключаецца розьніца...

К. В.

*Трэба ведаць, што расейцы паводзяць сябе на Беларусі, як замшэлыя калёніялісты... Праўда, ёсьць сьветлыя выключэньні, гэта пераважна людзі дастойныя і высока інтэлігентныя, але большасьць усё-такі заражаныя шавінізмам, нецярпімасьцю і нічым не апраўданаю пыхлівасьцю...*

Шаноўны Сп. Прускі!

Апошнія падзеі на Беларусі занепакоілі мяне, як ніколі раней. Упэўнены, што ваш палец на пульсе і няма патрэбы вас алярмаваць...

Залучаю ахвяру і жадаю посьпеху ў пашырэньні чытацкага асяродзьдзя. Асабіста вам жадаю моцнага здароўя сеяць праўду аб стане нашай кволай незалежнасьці...

З прывітаньнем і найлепшымі пажаданьнямі, М. Г.

*Шчыра дзякуем за цікавы ліст, а таксама за ахвяру на выдавецтва. Жадаем Вам усяго найлепшага!..*




*Сьмех і грэх...*

### МЕДАЛЬ Ф. СКАРЫНЫ МІТРАПАЛІТУ ФІЛАРЭТУ

**Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Мітрапаліт Філарэт (Вахрамееў К.В.) узнагароджаны медалём Францыска Скарыны.**

**Высокай узнагароды ўладыка ўдастоены за шматгадовую плённую дзейнасць па адраджэнню, захаванню, развіццю духоўнай і культурнай спадчыны беларускага народа.**

**НАША ГАЗЭТА ВЫДАЕЦЦА ДЗЯКУЮЧЫ АХВЯРНАСЬЦІ ЧЫТАЧОЎ...**

**Горадня**

*"Свабода"*

## На кожную акругу — па 7-8 дэпутатаў

**У Гарадзенскай вобласьці вылучана больш за 230 кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савету. Усяго створана 31 выбарчая акруга, і, такім чынам, на кожную прыпадае ў сярэднім 7—8 прэтэндэнтаў. Зноў вылучаюцца 13 дэпутатаў цяперашняга парляманту, у ліку якіх і старшыня Мечыслаў Грыб.**

Сярод кандыдатаў чвэрць складаюць прадстаўнікі інтэлігенцыі, 27 прадпрымальнікаў, 16 старшыняў калгасаў, 13 міліцыянтаў, 7 рабочых, 6 вайскоўцаў, 6 пэнсіянэраў і нават два беспрацоўныя.

Вельмі паказальна, што найбольшую актыўнасьць на гэтым этапе выявілі прадстаўнікі карэннай нацыі: 158 кандыдатаў (74%) — беларусы, ёсьць таксама 28 палякаў і 23 расейцы.

Найбольш (27 кандыдатаў) выстаўляе Партыя БНФ. 21 — камуністы, 16 — Аграрная партыя, 15 — Партыя народнай згоды.

У Горадні зафіксаваны выпадак заўчаснай перадвыбарчай агітацыі за кандыдата ад Згоды У.Нісьцюка, які вельмі дапамог Лукашэнку трапіць у прэзыдэнты, але зь якім яны пасьля разышліся. Плякатамі сп.Нісьцюка быў завешаны мікраraён Прынёманскі. Аднак абласная выбарчая камісія чамусьці не пажадала зьвязвацца зь ягонай групай падтрымкі і заплюшчыла на ўсё вочы.

С.А.

## КАМУФЛЯЖНЫЯ ПЛЯМЫ ГІСТОРЫІ

**Як стала вядома агенцтву РІД, на Мінскім картаграфічным прадпрыемстве знаходзіцца макет вучэбнай карты, якая асвятляе падзеі беларускай гісторыі XVI стагоддзя.**

Па агульнапрынятай традыцыі на карце спецыяльнымі сімваламі абазначаны мясцы важнейшых ваенных бітваў і побач — даты прайшоўшых падзей.

Прадстаўнікі Міністэрства абароны катэгарычна не згодны з тым, што на гістарычнай карце адзначана і Аршанская бітва 1514 года. Гісторыкі ў пагонах прапануюць у гэтым месцы карты проста пакінуць «белую пляму», каб не азмрачаць «тысячагадовай дружбы беларускага і рускага народаў».

**Алесь ВЕЦЕР, РІД**

### ДАЛЕЙШЫЯ
### Ахвяры на Беларускі Музэй у Гайнаўцы, Беласточчына:

| | | |
|---|---|---|
| 42. | Мацьвей Смаршчок | $20.00 |
| 43. | Міхась Каленік | $20.00 |
| 44. | Аўген Весялоўскі | $20.00 |
| 45. | Мікола Латушкін | $50.00 |
| 46. | К. Пуп | $8.00 |
| 47. | А. Гушча | $10.00 |
| 48. | П. Нягода | $10.00 |
| 49. | С. Шэўчук | $5.00 |
| 50. | А. Іванюк | $5.00 |
| 51. | В. Мельнічук | $10.00 |
| 52. | Н. Говін | $3.00 |
| 53. | Д. Швефель | $5.00 |
| 54. | Ю. Чыпурка | $5.00 |
| 55. | Р. Мартынюк | $5.00 |
| 56. | Б.-А. Нац. Рада | $50.00 |
| 57. | Бел. Прав. Пар. Сьв. Юрыя | $50.00 |
| | Разам: | **$276.00** |
| | Папярэднія ахвяры: | $1,295.00 |
| | Разам: | **$1,571.00** |

**Чакаем далейшых ахвяраў! Хто наступны?!**

***

**У краме Коля хоча купіць чай.**
**— Які хочаце, кітайскі ці рускі? — ветліва пытае прадаўшчыца.**
**— Калі так маю выбіраць, дык можа хай будзе кава.**

